**Змест**





**Мікалай Анісавец**

# На скрыжаваннях шляхоў, межаў і эпох
**(Нарысы гісторыі Лоеўшчыны)**

## Частка II

**г. Лоеў 2017г.**

## Лоеўскія кірмашы

У даўнія часы ў Беларусі існавала прымаўка, што ўсе вуліцы і дарогі вядуць на кірмаш. І гэта невыпадкова, бо рынычныя плошчы нашых гарадоў і мястэчак здаўна былі цэнтрамі эканамічнага і грамадскага жыцця. Не з'яўляецца выключэннем і Лоеў – гарадзішча дрыгавічоў, а пазней замак і мястэчка, размешчанае на гандлёвым шляху "з вараг у грэкі" ў сярэднім цячэнні Дняпра, пры ўпадзенні ў яго Сажа. Пра гандлёвыя функцыі гэтага паселішча сведчыць і адно з мясцовых паданняў паходжання назвы "Лоеў". Паводле падання, гандлёвыя людзі звычайна спыняліся каля паселішча, што размяшчалася на правым узвышаным беразе Дняпра, каб абмяняцца таварамі і папоўніць харчовыя прыпасы на далейшы шлях. Мясцовыя жыхары рыхтавалі гэтыя прыпасы спецыяльна для гасцей, а мясныя прадукты залівалі лоем – авечым тлушчам. Гэта рабілася для таго, каб мяса не псавалася ў доўгай дарозе. Ад слова "лой" і ўзніклі назвы "Лоева гара", "Лоевагорад" і "Лоеў". Цікава, што менавіта так пазначана мястэчка і на картах XVI-XVII стст.[1]

Ёсць падставы сцвярджаць, што ўжо ў высокім сярэдневякоўі каля падножжа Лоевай гары ўзнік "таржок", або "торг", як у тыя даўнія часы называлася месца, дзе веўся пастаянны гандаль. М.В. Доўнар-Запольскі выдзяляе два перыяды ў старажытным гандлі: самы старажытны - паўднёвы, араба-візантыйскі, больш позні - паўночны - ганзейскі. Да канца XI - пачатку XII ст. гандаль з поўднем прыходзіць у заняпад, таму што полаўцы рабуюць гандлёвыя караваны ў Прычарнамор'і. Тады набывае значнае развіццё паўночны гандаль.[2]

Безумоўна, у гэты гандаль паступова ўцягвалася і мясцовае насельніцтва. Пра гэта сведчаць знаходкі арабскіх і візантыйскіх манет, грэчаскіх і скандынаўскіх вырабаў у магільніках, на гарадзішчах і селішчах Лоеўшчыны.[3]

Асноўнымі прадметамі вывазу ў тыя часы былі воск, мёд, футра пушных звяроў, хмель і іншыя прадукты. З поўдня купцы прывозілі шаўковыя тканіны, жаночыя ўпрыгожванні (каралі, пацеркі, спражкі), з поўначы – мячы, сякеры, вырабы з бронзы, срэбра, жалеза,

1 Ширяев Е. Русь Белая, Русь Чёрная и Литва в картах. Мн., 1991. С.25-36.

2 Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С.48.

3 Гомельская вобласць1985.. Мн., С.234-247.Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі





Великому Княжеству Московскому, однако в результате следующей войны 1507-1508 гг. – возвращена в Великое Княжество Литовское. К тому же, в этот период регион периодически подвергался нападениям крымских татар Перекопской орды, в результате которых Лоевский замок неоднократно разрушался.

Вследствие Люблинской унии 1569 г. изменилась государственная принадлежность Лоевской земли-волости, которая вместе с Киевским воеводством вошла в состав Короны Польской, что ускорило процесс юридического оформления местной шляхтой сословных и имущественных привилегий. В это время по инициативе киевского каштеляна и любечского старосты Павла Сапеги был восстановлен Лоевский замок, Лоев получил магдебургское право, а в последующем было учреждено Лоевское староство. Всё это открывало широкие перспективы для превращения Лоева в более значительный региональный центр. Однако реализовать эти возможности в полном объёме помешали войны и разрушения, постигшие регион в XVII ст.

Тяжёлые материальные и людские потери понесла Лоевщина во время антифеодальной казацко-крестьянской войны на Беларуси 1648-1651 гг. В ходе этой войны Лоевская земля-волость стала эпицентром кровопролитных сражений, именно на её территории произошли судьбоносные для ВКЛ Лоевские битвы 1649 и 1651 гг., победы в которых позволили сохранить целостность княжества.

Значительные потери понёс регион в ходе войны России с Речью Посполитой 1654-1667 гг., когда также подвергался нападению и разрушению. По итогам этой войны Лоевское староство было включено в состав Речицкого повета Минского воеводства ВКЛ.

В 1676-1677 гг. земли Лоевского староства соймом Речи Посполитой были переданы в качестве майората в собственность речицкому хорунжему Михаилу Юдицкому и маршалку ВКЛ Александру Полубинскому за их военные заслуги перед государством. Во второй половине XVIII ст. Юдицкие выкупили земли А. Полубинского у его наследников. Таким образом, Лоев и Лоевщина стали частной собственностью и до отмены крепостного права в 1861 г. были преимущественно частным владением шляхетского рода Юдицких.

## Аннотация

**Н. И. Анисовец. На перекрёстках путей, границ и эпох.**
**(Очерки истории Лоевшины)**

Благоприятное природное расположение Лоевской земли-волости в Среднем Поднепровье на торговых путях на границе Беларуси с Украиной способствовало развитию этого микрорегиона как важного оборонительного, административного, политического и торгового центра. В истории региона можно проследить несколько этапов его развития.

Первый припадает на период существования Киевской Руси. В это время на торговом пути из варяг в греки зарождается городище Лоева Гора (Лоев), а невдалеке от него вверх по Днепру возникает военизированное многофункциональное поселение Мохов, где располагались дружинники великих киевских князей, призванные собирать дань и держать в повиновении соседнее население радимичей и дреговичей. Городище и его околицы на протяжении X-XIII стст. входили в состав Черниговского княжества и являлись правобережной частью единого административно-хозяйственного комплекса – Любечской земли.

С присоединением Чернигово-Северского и Киевского княжеств к Великому Княжеству Литовскому начинается этап становления Лоевской волости. Великие князья литовские усиливают приграничные городища, превращая их в укреплённые замки-крепости и центры военной организации. Во второй половине XV ст. на месте городища Лоева Гора сооружается замок для надёжной защиты Татарского брода на Днепре, военную службу в котором несла преимущественно местная шляхта. В 1470 г. образуется Киевское воеводство, в состав которого входит Любечский повет, в его границах располагается Лоевская земля-волость.

Процесс развития Лоевской земли-волости был в значительной мере заторможен в конце XV – первой половине XVI ст., когда регион неоднократно подвергался разрушению в ходе московско-литовских войн и военных конфликтов. Во время московско-литовской войны 1500-1503 гг. Лоевская земля-волость была присоединена к





віно, сукно, соль і іншыя тавары.

У сярэдзіне XVI ст. роля Лоева як гандлёва-рамесніцкага і абарончага цэнтра пачынае ўзрастаць. У гэты час на месцы былога гарадзішча Лоева гара адбудоўваецца драўляны замак для абароны найважнейшай рачной артэрыі і “татарскага броду” - водмелі на Дняпры, якая была своеасаблівым мостам на важным сухапутным шляху з Украіны ў Беларусь. “ Татарскі брод” патрабаваў пастаяннай і пільнай увагі, і ахова яго была ўскладзена перш за ўсе на жыхароў мясцовага замка, для якога гэтая служба часта была непасільнай.[4]

Можна меркаваць, што з далучэннем украінскіх зямель да ВКЛ адбываюцца станоўчыя змены ў гандлі ў паўдневым накірунку, што ў сваю чаргу спрыяла развіццю гандлю і ў Лоеве. Менавіта ў познім сярэдневякоўі на поўдзень і захад ад замка і гандлёвага месца пачынае расці ”ніжні Лоеў” - гандлёва-рамесніцкі пасад.

У гэтыя часы ў лоеўскім гандлі стала актыўна ўдзельнічаць яўрэйскае насельніцтва. Яўрэі (“гібры” на іўрыце) – гэта саманазва, а таксама сучасная беларуская і руская назва народа, які ўтварыўся ў выніку зыходу старажытнаяўрэйскіх плямён са Старажытнага Егіпта і заваявання імі Палесціны каля XIII ст. да н.э. Пасля захопу ў I ст. н.э. “Зямлі абетаванай” Рымам большасць яўрэяў была вымушана пакінуць тэрыторыю Палесціны і рассяліцца на пачатку пераважна ў Міжземнамор’і і ў Заходняй Еўропе, а потым і па ўсяму свету.

Як аселае насельніцтва яўрэі на тэрыторыі Беларусі з’яўляюцца недзе з часоў утварэння ВКЛ. Дакладна вядома, што ў канцы XIV ст. вялікі князь Вітаўт перасяліў у ВКЛ з Крыма разам з палоннымі татарамі частку крымскіх яўрэяў і блізкіх да іх па мове і рэлігіі караімаў. Пасля таго як у 1388-1389 гг. Вітаўт даў яўрэйскаму насельніцтву прывілеі, якія гарантавалі ім свабоду веравызнання, абарону жыцця, маёмасці і права на заняткі гандлем і рамесніцтвам, яўрэі сталі паўнавартаснымі членамі грамадства ў ВКЛ, што ў Сярэдневякоўі стварыла тут ўнікальныя ўмовы для іх паспяховага нацыянальна-культурнага развіцця. Яўрэі на беларускіх землях апынуліся ў лепшым прававым становішчы, чым мясцовае беларускае, пераважна сялянскае, насельніцтва, якое было ў стане прыгоннай залежнасці. Такое становішча садзейнічала перасяленню яўрэяў-ашкеназаў з Заходняй Еўропы ў ВКЛ, дзе яны цярпелі сур’ёзную

4 Ткачоў М. Замкі і людзі. Мн., 1991. С.113.

дыскрымінацыю. (Ашкеназы – яўрэі, выхадцы з Заходняй Еўропы (акрамя Іспаніі, Паўднёвай Францыі і Італіі), іх нашчадкі зараз складаюць большую частку яўрэяў Еўропы і Амерыкі, каля паловы яўрэяў Ізраіля.) У XV ст. пры вялікім князю Казіміру ІІ Ягелончыку распачалася масавая яўрэйская іміграцыя ў ВКЛ і каланізацыя імі беларускіх зямель. З часам яўрэі аказаліся тут самай большай пасля беларусаў нацыянальнай групай, якая насяліла галоўным чынам гарады і мястэчкі. Тады на беларускай зямлі сустрэліся і сталі суіснаваць, дапаўняючы адзін аднаго, два этнасы з адрознай ментальнасцю: талерантныя і працалюбівыя, выхаваныя ва ўмовах прасторавага прыроднага асяроддзя да пастаянства і адмовы ад рэзкіх змен жыццёвых абставін беларусы, і таксама талерантныя, але мабільныя і вынаходлівыя, выхаваныя ва ўмовах жорскага этнічнага супрацьстаяння і канкурэнцыі да рызыкі і прадпрымальніцтва яўрэі. Паступова значная частка яўрэяў станавіліся пасярэднікамі ў зносінах ліцвінскай феадальнай эліты і беларускіх сялян, што фарміравала ўяўленне аб яўрэях як пасобніках эксплуатацыі і ліхвярах і, здаралася, выклікала праявы бытавога антысемітызму ў беларусаў.

Паўстае пытанне: як у тыя часы называлася месца, дзе вёўся гандаль ?

Як вышэй згадвалася, найбольш раннім абазначэннем гандлёвага месца было слова “торг”. У XIII ст. разам з нашэсцем на рускія землі мангола-татараў да нас з усходу прыйшло цюркскае слова “базар”, якое ўкаранілася і ў беларускім Падняпроўі. Гэтае слова не трапіла далей на захад, бо там панавала нямецкае слова “рынак”. Недзе ў XV стагоддзі слова “рынак” прыйшло праз Польшчу і на беларускія землі. Прыкладна ў гэты ж час да нас трапіла яшчэ адно нямецкае слова – “ярмарка”. Нашы продкі запазычылі ў Заходняй Еўропе не толькі гэтае слова, але і традыцыю вялікіх святочных таргоў-ярмарак, якія суправаджаліся народнымі гуляннямі і забавамі.

Але слова “ярмарка” ў Беларусі таксама не надта прыжылося, яно добра замацавалася ў Русі і на Украіне. У Беларусі ж сталую прапіску атрымала яшчэ адно нямецкае слова - “кірмаш”. Цяпер можна меркаваць, што сінонімы – “базар”, “рынак”, “ярмарка”, “кірмаш” – яшчэ з сярэдне вякоўя ўжываліся на Лоеўшчыне.

Права ствараць ці дазваляць ярмаркі-кірмашы ў тыя часы было ад-




адлюстроўваюць характар паводзін іх першажыхароў або ўладальнікаў зямлі: Арол, Бывалькі, Бодры, Смелы, Удалёўка, Ястрабка.

Працавіты беларускі народ даволі часта месцы свайго пражывання называў словамі, якія ўвасаблялі від вытворча-гаспадарчай дзейнасці, якім пераважна займаліся жыхары гэтага паселішча. Каштоўнасць гэтай катэгорыі тапонімаў у тым, што мы можам меркаваць, чым займаліся нашы далёкія прашчуры. Ёсць група такіх тапонімаў і на Лоеўшчыне: Будзішча, Буда-Петрыцкая – населеныя пункты, якія некалі былі звязаныя са смалакурэннем, гонкай дзёгцю, або выпальваннем драўлянага вугалю, Дзяражычы – вартай шляхоў зносін (дзяржаць і жыць), Кашовае –лазапляценнем, Крупейкі – мукамольнай вытворчасцю, Лутава – вытворчасцю лыка, Новакузнечная –кавальскай справай, Сяўкі –земляробствам, Трасцянец – апрацоўкай ільну.

Сярод гэтай групы сустракаюцца і тапонімы, паходжанне якіх звязана з жалезнарудным промыслам. Такія паселішчы ўтрымліваюць у сваёй назве слова Рудня, якое спалучаецца альбо са словамі, якія адлюстроўваюць асаблівасці мясцовасці: Рудня Пясочная, альбо паказваюць прыналежнасць паселішча: Рудня Бурыцкая, Рудня Жураўлёва, Рудня Каменева, Рудня Удалёўская.

Дзве вёскі Лоеўшчыны Папоўка і Райск атрымалі свае назвы як пацверджанне рэлігійных абставін жыцця і ўяўленняў іх насельніцтва.

Вельмі адметныя, авангардныя для свайго часу назвы атрымалі некаторыя вёскі Лоеўшчыны, якія ўтварыліся ў 20-– 30-ыя гады XX стагоддзя ў час ссялення хутароў і калектывізацыі: Барэц, Васход, Вянера, Іскра, Майск, Марс, Новая Дзярэўня, Пабядзіцель, Прагрэс, Рэкорд, Слава, Труд. Некаторых з іх напаткаў сумны лёс – адны з іх у пасляваенныя савецкія часы аказаліся неперспектыўнымі і паступова сышлі ў нябыт, іншыя ж, як напрыклад, Марс і Рэкорд, і сёння здзіўляюць гасцей раёна сваёй экзотыкай.[103]

103 Новікава Г. Вёскі Лоеўскага раёна.// Гісторыя. Праблемы выкладання. №1. 2001. С.104-112.

торыі налічвалася 103 населеныя пункты. На падставе дасследавання назваў населеных пунктаў, легенд і паданняў Лоеўшчыны, вывучэння гістарычных крыніц намі былі вылучаны некалькі груп такіх паселішчаў.

Самую вялікую групу складаюць вёскі, у назвах якіх характарызуюцца асаблівасці навакольнай мясцовасці або яе знешні воблік. Да гэтай групы адносяцца вёскі Глушэц, Падрачыцкае, Ваўкашанка ( паселішча сярод воўчых балот), Каўпень ( на ўзвышшы, каля возера), Чаплін ( на вяршыні гары, паросшай зараснікамі), Чанец ( у паніжэнні, акопе), Шчытцы ( на ўзвышаным шчыце).

Да гэтай жа групы вёсак, адносяцца і населеныя пункты, якія ўвасобілі ў сваіх назвах факт іх размяшчэння на месцы лясных масіваў: Алішэеўка, Дубраўка, Ліпнякі, Малінаўка, Лесуны, Ляскі, Страдубка, або каля канкрэтнага прыроднага або гаспадарчага аб’екта: Белы Калодзеж, Гарадок ( каля старажытнага гарадзішча), Карчомка (каля карчмы), Мохаў ( каля мохавага балота), Ручаёўка (каля ручая), Суткоў ( каля сутока рэк), Уборкі ( каля бора).

Зараз можна з вялікай доляй ўпэўненасці сцвярджаць, што шэраг вёсак раёна, былі заснаваны ў другой палове XIX – пачатку XX стагоддзя як выселкі з іншых вёсак. Яны атрымалі назвы ўрочышчаў, на месцы якіх гэтыя вёскі ўзніклі: Астравы, Вазон, Вулкан, Вышкаў, Галы, Грэбяняcтае, Добры Рог, Ніва, Пагальное, Пустая Града, Свірэжа, Тучкі.

У назвах некаторых вёсак знайшоў адлюстраванне характар іх забудовы: Дамамеркі – дамы пад мерку, Казярогі – загнутыя вуліцы, як рогі казы, Крывін – крывыя вуліцы, Цясны –цесная забудова, Хаткі – вёска без вулічнай забудовы, Шыя – адна доўгая вуліца; альбо з важнай падзеяй, звязанай з гісторыяй пабудоў гэтых вёсак: Пярэдзелка, Зарэзаў.

Вялікую групу складаюць вёскі, назвы якіх ўтвораныя ад імён першапасяленцаў, або ад прозвішчаў заснавальнікаў ці ўладальнікаў: Абакумы, Аўрамаўка, Бушацін, Вінаградаўка, Грамыкі, Грохаў, Іванькаў, Ісакавічы, Казіміраўка, Карпаўка, Мікалаеўка, Міхалёўка, Новая Баршчоўка (да 1938 г. Баршчоўка), Салаўёў хутар, Сінск, Хамінка.

Асабную групу складаюць назвы вёсак, якія ў пэўнай ступені





ным з важных феадальных прывілеяў. Яго атрымлівалі звычайна ад вялікага князя асобныя гарады, духоўныя або свецкія феадалы. Першым кірмашом, афіцыйна дазволеным у Беларусі, быў кірмаш у Полацку ў 1498 г. У XV ст. кірмашы праводзіліся ў Менску і Оршы, у XVI ст. – у Гародні і іншых гарадах ВКЛ.[5]

3 жніўня 1576 г. стараннямі старасты Паўла Іванавіча Сапегі Лоеву прывілеем Стэфана Баторыя было нададзена Магдэбургскае права і з 1585 г. да канца – XVIII ст. мястэчка з’яўлалася цэнтрам стараства. Гарады, якія атрымлівалі Магдэбурскае права, звычайна, мелі прывілеі на правядзенне кірмашовага гандлю. Адным з першых Лоеўскіх кірмашоў, які афіцыйна стаў праводзіцца на Лоеўшчыне, быў Дзесяцінны кірмаш, з якім звязана паданне аб паяве ў ваколіцах Лоева абраза Святой Параскевы Пятніцы – нябеснай заступніцы Лоева. Менавіта ў гэты перыяд адбываецца росквіт местачковага кірмашовага гандлю. Кірмашы звычайна прымяркоўваліся да рэлігійных свят ці пэўнай пары года, ад якіх часта паходзілі і іх назвы. Замежным купцам тады дазвалялася гандляваць толькі на кірмашах, таму яны ператвараліся ў цэнтры міжнароднага гандлю. Безумоўна, у гэты перыяд лоеўскі гандаль зведаў і перыяды часовага заняпаду, які быў выкліканы набегамі крымскіх татараў у першай палове XVI ст., у час якіх Лоеў быў спалены, і разбуральных антыфеадальнай казацка-сялянскай 1648-1651 гг. і руска-польскай 1654-1667гг. войнаў.

Пачынаючы з сярэдзіны XVI ст. адбываюцца змены ў структуры еўрапейскага гандлю. Такія тавары, як футра і воск, перасталі адыгрываць дамінуючую ролю. Караблебудаванне і рост гарадоў у Заходняй Еўропе выклікалі ажыўлены попыт на збожжа, лясныя матэрыялы, лён, пяньку, скуру.[6] Гэта не магло не адбіцца і на развіцці лоеўскага гандлю.

На жаль, про кірмашы ў Лоеве пакуль што знойдзена ня шмат дакументальных звестак, але і дадзеныя, якія выяўлены, дазваляюць зрабіць пэўныя вывады. Лоеўскія кірмашы па аб’ёму тавараў, безумоўна, значна саступалі Зэльвенскаму, Свіслацкаму, Менскаму, Нясвіжскаму, Гомельскаму і іншым кірмашам у буйных гарадах Беларусі. Але, безумоўна, на працягу XVI - XVIII стст. Лоеў быў важ-

5 Беларуская энцыклапедыя. Т.8. Мн., 1999. С. 280.

6 Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі. Мн., 1994. С.205.

ным цэнтрам кірмашовага гандлю і з'яўляўся перавалачнай базай у транзітным гандлі паміж Беларуссю і Украінай. Да таго ж, у другой палове XVII - першай палове XVIII ст. традыцыйныя шляхі украінскіх купцоў праз Польшчу ў Заходнюю Еўропу былі або зусім закрыты, або вельмі небяспечнымі, таму ім даводзілася рухацца абходным шляхам, які пачынаўся з Чарнігава і вёў праз дняпроўскую пераправу ў Лоеў і далей праз Рэчыцу і Парычы на Рыгу і Кёнігсберг (Крулявец). [7]

У канцы XVIII ст. мястэчка падзялялася на "верхні" і "ніжні" Лоеў, мела 1712 жыхароў, з іх 849 мужчын і 863 жанчыны, 90 двароў. У Верхнім (Старым) Лоеве было 8 вуліц: Базарная, Паштовая, Троіцкая, Чапегава, Казярогава, Сарокава, Супрунова, Аднабочка і Троіцкі завулак. Лоеў быў другім па вялічыні мястэчкам у павеце пасля Рэчыцы. Большаю частку яго насельніцтва – 1091 чалавек – складалі прыгонныя сяляне. Мяшчан-яўрэяў налічвалася 543 чалавекі, насельніцтва шляхецкага саслоўя – 69, з іх 7 чалавек "шляхты уладальнікаў" і 62 – "шляхты чыншавай і на паслугах", а таксама 9 асоб духавенства хрысціянскіх канфесій. Мануфактурная вытворчасць тут была прадстаўлена чатырмя вінакурнямі і адной саладоўняй, якія забяспечвалі сваёй прадукцыяй 24 мясцовыя шынкі. Каля мястэчка функцыянавалі 8 млыноў: тры рачных, тры байдачных і два ветраных. Мясцовыя жыхары ў пераважнай большасці займаліся земляробствам і жывёлагадоўляй, гандлем, ганчарствам, будаўніцтвам байдакоў, сплавам карабельнага лесу і дравяных плытоў у Кіеў, Крамянчуг і Херсон.[8]

Можна меркаваць, што як і ўладары іншых прыватнаўласніцкіх мястэчак, Юдзіцкія мелі прывілей на правядзенне кірмашоў у Лоеве. Аб гэтым сведчаць звесткі, што ў XVIII ст. Юдзіцкія атрымлівалі значны прыбытак ад здаваемых у арэнду гандлёвых радоў у Лоеве.[9] Пэўнае ўяўленне пра колькасць Лоеўскіх кірмашоў, а таксама іх працягласць дае "Памятная кніжка Мінскай губерніі на 1913 год". Змешчаныя тут матэрыялы дазваляюць сцвярджаць, што ў Лоеве штогод праводзілася дзесяць кірмашоў: пяць аднадзённых, чатыры двухдзённыя, адзін трохдзённы. Першы з іх быў звычайна 7-8 студзеня, на свята Хрышчэння, наступны – 2-3 лютага – на Стрэчанне, трэці

7 Літопис Самійла Велічка. Т.1. Київ.1991. С.92.

8 Петреченко І.Містечко Лоев за данімі "Камерального описания … Речицкой округи" 1796 р.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель. 2006. С.63.

9 Козловский П. Магнатское хозяйство Белоруссии во второй половине XYIII в. Мн., 1974. С.133.





най вайны, у 16 назвах вуліц знайшлі адлюстраванне асаблівасці іх размяшчэння на мясцовасці і час забудовы (Лугавая, Садовая, Новая, Азёрная, Палявая і г.д.), 6 вуліц носяць імёны пісьменнікаў. На жаль, ні адна са старых вуліц Лоева не захавала сваю першапачаткоаую назву. Сапраўдным анахранізмам зараз выглядаюць назвы вуліц: Калініна, Дзяржынскага, Варашылава, якія да таго ж у Лоеве ніколі не былі. Не быў у мястэчку і пралетарскі пісьменнік Максім Горкі, а вось вуліца яго імя ёсць. Затое Тарас Шаўчэнка ў 1829 годзе праязджаў праз Лоеў у Вільню ў абозе князя П.В. Энгельгарта, аднак вуліцы Шаўчэнкі тут не існуе.

У назвах вуліц, як у люстэрку адлюстроўваецца гісторыя любога горада. У сувязі з гэтым да назваў вуліц пажадана падыходзіць больш уважліва, увекавечваць імёны толькі тых людзей, жыццё якіх непасрэдна звязана з гарпасёлкам, з гісторыяй нашых мясцін.

## Адкуль паходзяць назвы нашых вёсак ?

На зямлі Беларусі зараз бадай што не знойдзецца аніводнай геаграфічнай назвы, якая б узнікла выпадкова, без дай прычыны. Кожны населены пункт, кожнае месцейка прыроды: луг, лес, вялікая рака і маленькі ручаёк маюць у народзе сваю назву, сваё, часам непаўторнае моўнае абазначэнне. У сувязі з гэтым, вядомы беларускі тапограф , прафесар, доктар геаграфічных навук Жучкевіч В. А. які, дарэчы, нарадзіўся ў Лоеве ў 1915 годзе сцвярджаў, што тапанімічнае імя заўсёды мае канкрэтны сэнс. У ім па большай частцы выяўляюцца ці якія-небудзь прыкметы ўрочышча, ці намёк на паходжанне, ці характэрная рыса мясцовасці, ці, нарэшце, якая-небудзь акалічнасць, больш менш цікавая для розуму і фантазіі. І якіх толькі назваў мы тут не сустрэнем, з якімі дзіўнымі легендамі і паданнямі паходжання гэтых назваў не сустрэнемся. Часам гэтыя паданні вельмі даўнія, яны передаваліся з вуснаў у вусны і дайшлі да нас праз пакаленні нашых продкаў.

Гэта пацвярджаюць і назвы вёсак Лоеўскага раёна, у межах якога зараз знаходзіцца 7 сельскіх саветаў і 70 населеных пунктаў. Але згадаем, што яшчэ на пачатку 40-х гадоў XX стагоддзя на гэтай тэры-

некаторыя старажылы сцвярджаюць, што вуліца Трактавая – гэта цяперашняя частка вуліцы Шэвелева. Але ў такім разе гэтая вуліца ў даведцы Фінкельберга Е.О. была б аднесена да верхняга горада. Цяжка дапусціць, што Фінкельберг мог памыліцца, так што пытанне застаецца адкрытым.

Да ніжняй паловы мястэчка адносіўся і хутар Залозны. Ён размяшчаўся адразу за мастом уздоўж Вітача. Тут было некалькі хат, пабудаваных "за лазой". Потым, ужо ў савецкія часы, узнікшая на месцы хутара вуліца атрымала імя Чапаева.

Сучасныя вуліцы імя Калініна і Першамайская, што ідуць на поўнач ад вуліцы Леніна, у мінулым існавалі, але назваў не мелі, бо людзі на іх не сяліліся і яны раздзялялі агароды лаяўчан. Пасля рэвалюцыі сітуацыя змянілася, памеры агародаў скарацілі. На гэтых вуліцах таксама сталі будаваць хаты, а затым і назвы ў іх узніклі - адпаведна імя Калініна і імя Леніна.

У пачатку 60-х гадоў мясцовыя ўлады вырашылі, што цэнтральная вуліца павінна насіць імя Леніна і памянялі назвы: вуліца Леніна стала Першамайскай, а Першамайская – вуліцай Леніна.

У першыя гады савецкай улады ўзнікла яшчэ адна вуліца, яна была пабудавана праз былы сад паноў Лашчоў, што размяшчаўся на поўнач ад Лоевай гары ўздоўж Дняпра. Зараз гэта вуліца носіць імя Канстанцінава, а спачатку называлася Садовай, што адпавядала яе паходжанню. Вуліца літаральна патанала ў зелені сада, і вясной, у час квецені, ёй не было роўных у Лоеве па прыгажосці.

У пасляваенныя гады першай узнікла вуліца Пралетарская, якая спачатку называлася Палявой, бо была адбудавана на полі і выводзіла на старую Гальскую дарогу. Гэтая дарога распачыналася з Лоева і вяла праз Казярогі і ўрочышча Галы на Рэчыцу, Бабруйск і Мінск Затым, паступова, сталі ўзнікаць новыя вуліцы. Лоеў пашырыўся за Вітач у бок вёсак Крупейкі і Каўпень і на поўнач – у бок вёсак Казярогі і Мохаў. Большасць новых вуліц далі імёны Герояў, што вызвалялі Лоеў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў – Акуцыёнка, Волкава, Ракасоўскага, Фралянкова, нашага земляка В.А.Казлова і іншых.

Зараз у Лоеве існуе 3 завулкі і 52 вуліцы, кожная з якіх мае сваю назву і гісторыю. 7 вуліц носяць імёны дзеячоў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, 14 – імены герояў і ўдзельнікаў Вялікай Айчын-





– 24 лютага, на свята Іаана Хрысціцеля, чацвёрты – 9 мая, на веснавое свята Мікалая, наступны – на сёмую нядзелю пасля Вялікадня, у трэці дзень Святой Тройцы. У жніўні наладжваліся два кірмашы – 15 жніўня, на свята Успення Прасвятой Багародзіцы, і 29-30 жніўня, на свята Усекнавення галавы Іаана Хрысціцеля. Трохдзенны кірмаш праводзіўся на зімовае свята Мікалая Цудатворцы 3, 5 і 6 снежня, а апошні, двухдзенны кірмаш наладжваўся ў чацвер і пятніцу перад Ражаством Хрыстовым. Акрамя гэтага, кожны год у пачатку лета, на "дзесятуху" (у пятніцу і суботу на дзесяты тыдзень пасля Вялікадня), наладжваўся двухдзённы кірмаш каля каплічкі са святой вадой – за 7 км ад Лоева за вёскай Крупейкі. Па колькасці кірмашоў і іх працягласці з Лоевам у гэтыя часы маглі супернічаць у Мінскай губерні толькі Смілавічы Ігуменскага, Гарадзішча Навагрудскага, Любяшова Пінскага паветаў.[10]

Лоеўскія кірмашы не былі спецыялізаваныя. Тут можна было набыць самыя разнастайныя тавары: прамысловыя і рамесніцкія вырабы, зерне, лён, жывёлу, сена, дровы, дзёгаць, салёную рачную рыбу - "платану", "макуху"- жмых ад семак сланечніка і льну, што выкарыстоўваўся для корму жывёлы, і іншыя. Вядома, што ў 1861 г. на Лоеўскі дзесяты кірмаш было прывезена тавараў на суму 2 800 руб., прададзена – на 1 300 руб.[11] У 1863 г. было прывезена тавараў на 3200 рублёў, прададзена – на 1550, у 1864 г. адпаведна на 3600 і 2000 рублеў.[12] Ёсць падставы меркаваць, што гадавы абарот усіх лоеўскіх кірмашоў складаў ад 20000 да 30000 рублёў, што было значнай па тым часе сумай.. *(Іл-я 26. На кірмашы ў мястэчку. Пачатак XX ст.)*

Асабліва ажыўлены гандаль у мястэчку быў вясной. Звычайна ярмаркі-кірмашы (дыялектнае "ярмалкі" ) не ўмяшчаліся на Базарнай плошчы ( зараз Цэнтральная плошча ), яны займалі таксама значную частку Базарнай вуліцы ( цяпер вуліца Леніна ), аж да грэблі і мастка праз рэчку Вітач. Лоеўскія кірмашы былі сапраўднымі фэстамі, бо яны суправаджаліся багаслужэннем у цэрквах, гуляннямі, выступленнямі артыстаў з Украіны і цыганаў у спецыяльным драўляным памяшканні - Лоеўскім " ілюзіене ", дзіцячымі

---

[10] Памятная книжка Минской губернии на 1913 год: Справочные и административные сведения. Мн., 1912. С. 79-82.

11 Белоруссия в эпоху капитализма: Сборник документов и материалов. Т.2. Мн., 1990. С. 152.

12 Памяць. Лоеўскі раён. Мн., 2000. С.43.

атракцыёнамі і іншымі забавамі.

У той час Лоеў быў значным цэнтрам і транзітнага гандлю. Ім у Лоеве ў асноўным займаліся яўрэі. Тут было шмат гандлёвых складоў, у якіх захоўваліся тавары, што сплаўляліся вясной і летам па Дняпры, Бярэзіне і Сажы: соль, збожжа, лён, масла і інш. Штогод гэтых грузаў накіроўвалася ўверх па цячэнні Дняпра да 70 тыс. пудоў, уніз – да 160 тыс., а прыбывала знізу да 90 тыс. і зверху да 150 тыс. пудоў.[13]

Аб значнай ролі Лоева, як гандлёвага цэнтра, сведчыць і наступныя радкі з фальклорнай песні запісанай у вёсцы Дзяражычы, што размяшчаецца ў 30-ці кіламетрах ад Лоева ўніз па Дняпры:

А ў пана Івана ўмная жана.
Бог яму даў умную жану ў яго даму !
Умная жана сенечкі мяла.
Сенечкі мяла, шэляжкі знайшла
Ды закупіла ды тры гарады
Што першы горад-ды славен Кіеў,
Што другі горад-ды славен Чарнігаў,
А трэці горад-славен наш Лоеў.
Як Кіеў славен – то ўсё царквамі,
Чарнігаў славен – усё казакамі,
А Лоеў славен усё гандлярамі.
Што ў Кіеў хадзіць – Богу маліцца,
А ў Чарнігаў – ваявацiся,
Ой, а ў Лоеў- таргавацiся[14]

Вядома, што ў XIX ст. лоеўскія гандляры – браты Долгіны, Прытыцкі, Сабалеўскі, Холмецкі, Шэйхман – разбагацелі на пасрэдніцкім гандлі лесам і іншымі таварамі і пачалі будаваць у мястэчку прыгожыя вялікія дамы, у тым ліку і мураваныя. Чатыры з іх, пабудаваныя ў эклектычным стылі, захаваліся да нашага часу і з'яўляюцца помнікамі архітэктуры XIX - пачатку XX ст..

З другой паловы XIX ст. пачаўся паступовы заняпад кірмашовага гандлю. Гэта было звязана з развіццём паўсядзённага гандлю прамысловымі таварамі праз магазіны і крамы. Паводле перапісу насельніцтва 1897 г. ў Лоеве пражывала 4 667 жыхароў, з іх 2150 (47%)

13 Семёнов В. Россия: Полное геаграфическое описание нашего отечества. Т.9. СПб., 1905. С.571.

14 Беларускі фальклор у сучасных запісах: Традыцыйныя жанры. Гомельская вобласць. Мн., 1989. С.23.





вялічкай вуліцай, якая называлася Аднабочкай па той прычыне, што жылыя пабудовы тут былі толькі з левага боку. Зараз гэта вуліца называецца Кастрычніцкай.

Уздоўж Лоеўкі, рачулкі-ручая , што працякаў каля заходняга падножжа замка, праходзіла вуліца Паштовая, таму што ў канцы яе размяшчалася паштовая станцыя. Пасля вайны былая Паштовая вуліца стала называецца Савецкай, а вуліца, што вяла ўздоўж парка, стала называцца Паштовай, зараз гэтая вуліца носіць імя капітана Шэвелева.

Паўночная частка вуліцы Тэльмана ў мінулым называлася Калдоб і гэта не выпадкова, бо яна і зараз знаходзіцца ў паніжэнні "калдобіне". Ёсць меркаванне, што некалі тут праходзіў гарадскі вал і глыбокі роў, якія абараняли Лоеў ад ворагаў з захаду.

Ніжняя палова Лоева пачыналася з Пяскоўкі. Старажылы сцвярджаюць, што на ёй некалі было шмат пяску, прахожыя і падводы тут літаральна патаналі ў пяску, адсюль і паходжанне назвы гэтай вуліцы. Пяскоўка выходзіла на Фісеву вулачку, дзе жылі знакамітая сям'я Фісеў. Былыя Пяскоўка і Фісева вулачка зараз з'яўляюцца вуліцай Інтэрнацыянальнай.

Далей да Дняпра размяшчалася невялікая вуліца, якая з даўна была Шмыргуноўкай, а зараз называецца Піянерскай. Чаму яна так называлася дакладна невядома. Магчыма таму, што была яна невялічкай і праз яе было лёгка прашмыгнуць у густыя заараснікі лесу, што рос у даліне Дняпра, а магчыма і таму, што тут жыў нейкі чалавек з падобным прозвішчам.

Ад прыстані на захад уздоўж Дняпра цягнулася вуліца, якая з даўніх часоў насіла назву Плюшчоўка. Чаму яна ў тыя часы так называлася ? Магчыма таму што цягнулася ўздоўж заараснікаў плюшча, якога было шмат на ўзбярэжжы. А магчыма і таму, што на ёй жыло шмат людзей, якія насілі прозвішча Плюшч. Пасля рэвалюцыі вуліцу называлі Водніцкай, а зараз яна носіць імя Героя Савецкага Саюза Барыса Царыкава.

Зараз з ліку пералічаных у даведцы 1923 г. вуліц няма дакладных звестак аб месцазнаходжанні Трактавай вуліцы. Магчыма, гэта паўднёвая частка сучаснай вуліцы Тэльмана, якая вяла да тракта, што быў пабудаваны да маста праз Днепр і вёў на Украіну. Але

най вайной яе цэнтральную частку забрукавалі.
Вуліца імя Горкага на пачатку XX ст. была Троіцкім завулкам. Пачыналася яна не з цэнтра, як і зараз, а крыху далей на захад, са спуска з Гілевай гары. У пачатку гэтай вуліцы жыў вядомы на ўсю акругу яўрэй Гіль. Старажылы казалі, што ў зімовы час лоеўская дзятва з задавальненнем каталася на гэтай вуліцы з гары на санках.

Сучасная вуліца імя Пінчука за сваю гісторыю мела яшчэ дзве назвы. Да рэвалюцыі яна называлася Троіцкай, бо вяла да Свята-Троіцкага сабора, які размяшчаўся ва ўсходняй частцы Гілевай (Смолічавай) гары. Прыгожа над мястэчкам узвышаўся сабор, быў ён агароджаны каванай металічнай агароджай, да яго ўваходу вялі мармуровыя сходні.

Вуліца Троіцкая на захадзе выходзіла на вуліцу Вайсковую, якая ішла паўз старыя могілкі і завод Фарбацвет да мастка праз Вітач. Ёсць меркаванне, што Вайсковай яна называлася таму, што на могілках было пахавана каля 10 тысяч загінуўшых у Лоеўскай бітве 1649 года.

У першыя гады савецкай улады дзве вуліцы – Троіцкую і Вайсковую – аб'ядналі пад адной назвай – вуліца Пралетарская, а пасля вайны ёй далі імя Героя Савецкага Саюза Пінчука Г.С., які нарадзіўся і вырас на гэтай вуліцы ў доме №12 (дом зараз знесены).

Вуліца генерала Батава раней называлася Чапегавай, таму што на ёй у свой час жыў вядомы ўсім чалавек з такім прозвішчам. Некаторыя старажылы сцвярджаюць, што пасля рэвалюцыі гэта вуліца насіла назву Чырвонаармейскай.

Вуліца Камсамольская да рэвалюцыі была Казярогавай, бо ад яе пачынаўся шлях на вёску Казярогі. Праходзіў гэты шлях праз цяперашнюю тэрыторыю камбіната будаўнічых матэрыялаў.
Да рэвалюцыі вуліца Апарына называлася Сарокавай або Сарокіна, зноў жа таму, што тут жыла сям'я з такім прозвішчам. Да вайны гэта вуліца нейкі час насіла імя Другой пяцігодкі.

У далёкім мінулым вуліца Партызанская насіла дзве назвы – яе называлі або вуліца Супрунова, або вуліца Бражная, таму што на ёй жылі вядомыя ва ўсёй акрузе сем'і Супруноў і Бражных. Пасля грамадзянскай вайны яе перайменавалі ў Партызанскую.
Верхні горад ў паўночным напрамку ў мінулым заканчваўся не-




яўрэяў, працавалі 24 крамы і гандлёвыя канторы.[15]

Развіцце магазінна-лавачнага гандлю прывяло да змяншэння ролі лоеўскіх кірмашоў, якія пачалі набываць мясцовы характар. На іх гандлявалі пераважна сельскагаспадарчымі прадуктамі і вырабамі сялянскіх промыслаў. Пасля кастрычніка 1917 г. кірмашы прыйшлі ў заняпад, але падчас НЭПа зноў ажывіліся. Удзел у іх разам з прыватнымі гандлярамі прымалі дзяржаўныя і кааператыўныя арганізацыі. У канцы 1920-х –пачатку 1930-х гадоў адбыўся канчатковы заняпад лоеўскіх кірмашоў, хаця яшчэ і ў 1950-1960-я гады на кірмашах можна было набыць жывёлу, глінялы посуд, сярпы, косы, розную бакалею і г.д. Затым традыцыі кірмашовага гандлю ў горпасёлку паступова пачалі забывацца.
Сучасны лоеўскі базар толькі крыху нагадвае нам пра былыя кірмашы, але ж яму далёка да тых багатых кірмашоў-фэстаў, якія былі для нашых продкаў сапраўдным святам і доўгачаканай падзеяй.

## Канфесіі і царкоўныя прыходы

Надзвычай важная роля ў жыцці гарадоў, мястэчак і буйных вёсак Беларусі належала культавым збудаванням. Яны не толькі вызначалі аблічча тагачасных населеных пунктаў, але, па сутнасці, былі іх культурнымі і грамадскімі цэнтрамі. У канцы XIX ст. на Лоеўшчы існавала 8 праваслаўных царкваў і сем прыходаў, 1 каталіцкі касцёл і 4 сінагогі.[16]

З чатырох драўляных будынкаў сінагог не захаваўся ні адзін, усе яны былі разбураны пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, а іх апісанне не захавалася.
Не захавалася апісанне і адзінага на Лоеўшчыне каталіцкага касцёла. Вядома, што адносіўся ён да каталіцкай парафіі рэчыцкага Свята-Мікольскага касцёла бернардзінцаў.[17] Касцёл размяшчаўся на высокім беразе Дняпра на Лоеўскім замчышчы. Пабудаваны ён быў з дрэва і атынкаваны глінай, пафарбаранай у белы колер. Касцёл быў разбураны ў пачатку XX ст.

15 Археалогія і нумізматіка Беларусі. Мн., 1993. С.373.
16 Анісавец М., Анісавец В. Помнікі і памятныя месцы Лоеўшчыны. Лоеў, 1999. С. 21.
17 Slownik geograficzny. T.5. Warszawa, 1884. S.686.

Да нашага часу, на жаль, таксама не захавалася ні аднаго старога будынка цэркваў. Большасць царкоўных пабудоў на Лоеўшчыне былі драўляныя, і ўсе яны былі разбураны ў гады савецкай улады і нямецка-фашысцкай акупацыі. Зараз захавалася не шмат звестак аб гісторыі стварэння цэркваў Лоеўшчыны, іх архітэктурных асаблівасцях і інтэр'ерах. Важныя звесткі на гэты конт удалося знайсці толькі ў кнізе Таварава А.В. "Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии" выдадзенай у Мінску ў 1903 г., а таксама ў "Памятной книжке Минской губернии на 1913 год".

Вядома, што для тагачаснага драўлянага царкоўнага дойлідства былі характэрны два тыпы храмаў: трохзрубны, падоўжана-восевай кампазіцыі, з адкрытым у інтэр'еры купалам-барабанам і прыбудаванай на галоўным фасадзе яруснай званіцай, і цэнтрычны, крыжападобны ў плане, з прыбудаванай яруснай званіцай. На Лоеўшчыне таксама існавалі два гэтыя тыпы храмаў.

Галоўным праваслаўным храмам на Лоеўшчыне быў **Свята-Троіцкі сабор у Лоеве.** Размяшчаўся ён у цэнтры Лоева на Гілевай (Смолічавай) гары, на адлегласці 200 метраў на паўднёвы-захад ад замчышча. Сабор быў пабудаваны ў 1838 годзе на месцы разабранай старой царквы. У 1864 г. да яго была прыбудавана званіца, а ў 1870 г. - новы прыдзел у памяць выратавання жыцця Гасудара-Імператара.[18]

Сабор уяўляў сабой драўляны будынак на мураваным фундаменце. Адносіўся ён да крыжовакупальнага тыпу храмаў з выцягнутым крыжом, адкрытым купалам і званіцай у франтоннай частцы. Сабор быў пакрыты жалезным дахам, афарбаваным у зялёны колер. У вонкавых, афарбаваных у белы колер сценах былі прарэзаны два рады вокнаў прамавугольнай формы. Унутраныя сцены былі таксама афарбаваны ў белы колер, а купал распісаны. Столь падшыта цёсам.

Іканастас быў пафарбаваны ў блакітны колер з пазалочанымі карнізамі, рамамі і разьбой. Цэнтральны з іх складаўся з 35 ікон простага пісьма, якія былі пастаўлены ў пяць ярусаў, а прыдзельныя-кожная з пяці вокнаў, пастаўленых у рад. У храме Свята-Троіцы існавалі тры прастолы: галоўны – у імя Прасвятой Троіцы і прыдзельныя –у імя Святога Благавернага князя Аляксандра Неўскага і Святога Вялікамучаніка Георгія. На званіцы сабора было пяць званоў адлітых у XVIII ст.: два – па аднаму пуду, 7,10 і 20 пудоў.

18 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 140





Троіцкі завулак. У ніжняй палове Лоева існавала ўсяго чатыры вуліцы: Плюшчоўка, Шмаргуноўка, Пяскоўка і Трактавая.[102] Як бачым, Лоеў у пачатку XX ст. падзяляўся на верхні і ніжні горад. Але дзе ж размяшчаліся гэтыя часткі ?

Як вядома, словы "верхні горад" і "ніжні горад" могуць сведчыць як аб часе ўтварэння часткі горада, так і аб геаграфіі яе размяшчэння: верхні горад звычайна размяшчаўся на ўзвышшы, ніжні – у паніжэнні. Старажылы Лоева сведчаць, што "верхні горад" размяшчаўся вакол гары ў цэнтры Лоева, якая насіла назву Гілевай або Смолічавай. Ён уключаў у сябе тэрыторыю, межамі якой былі вуліцы, што зараз носяць назвы Леніна на поўдні, Кастрычніцкая на поўначы, Савецкая і Тэльмана – адпаведна на ўсходзе і захадзе. "Ніжні Лоеў" – гэта тэрыторыя на поўдзень ад вуліцы Леніна ў бок Дняпра.

Гэтыя звесткі пацвярджае і гравюра ўдзельніка Лоеўскай бітвы 31 ліпеня 1649 г. Кшыштафа Эгірда. На гравюры яскрава відаць, што Лоеў па перыметру верхняга горада меў абарончыя ўмацаванні, якія складалі першую абарончую лінію перад замкам. Зараз ёсць падставы меркаваць, што верхні горад быў заселены і ўжо існаваў у XIV-XVII стст., а ніжні горад узнік і пастунова засяляўся ў XVIII-XIX стст. У верхняй частцы мястэчка пераважна жылі рамеснікі і гандляры, у ніжняй – сяляне.

Большасць вуліц "верхняга горада" пачыналася ад замка і базарнай плошчы і вялі ў заходнім накірунку ў бок Вітача і яшчэ, напэўна, у сярэднія вякі мелі свае назвы. Сучасная цэнтральная вуліца Лоева, якая зараз носіць імя Леніна, да рэвалюцыі называлася Базарнай. Гэта вуліца пачыналася ад базарнай плошчы і цягнулася да мастка праз Вітач. Базарная плошча на працягу стагоддзяў была адміністрацыйным, эканамічным і палітычным цэнтрам мястэчка. Тут праводзіліся шматлюдныя Лоеўскія кірмашы з удзелам гандляроў з іншых гарадоў і краін, працавалі крамы і шынкі, бурліла гаспадарчае жыццё. На ёй размяшчаліся адміністрацыйныя ўстановы. Да кастрычніка 1917 г. на плошчы знаходзіўся помнік расійскаму імператару Аляксандру ІІ Вызваліцелю.

Базарная вуліца была нямошчаная, з двух бакоў мела драўляныя тратуары, на ёй размяшчалася шмат гандлёвых крам. Пасля рэвалюцыі вуліца атрымала назву Першамайскай і перад Вялікай Айчын-

102 Дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці. Ф.135, воп. І, спр. 20, арк. 21.

стэрні, друкарня газеты "Калгаснік".[101]

У 1931 г. было распачата будаўніцтва камбіната будаўнічых матэрыялаў і электрастанцыі, рэканструяваліся старыя прадпрыемствы. У гэтым жа годзе распачалася тэлефанізацыя раена. Тэлефонная лінія на Лоеў вялася з Рэчыцы, таму першы тэлефон з'явіўся ў в. Страдубка. Тэлефонная станцыя і тэлеграф размяшчаліся тады ў цэнтры Лоева ў памяшканні рачнога вакзала.

Упершыню жыхары Лоева атрымалі электрычнае святло з пабудовай мясцовай электрастанцыі ў 1932 г. Да канца года агульная працягласць электрасеткі склала 4 км, электрычнае святло атрымалі 150 абанентаў. У 1934 г. колькасць абанентаў дасягнула 530, а працягласць электрасеткі – 13 км.

Большасць прамысловых прадпрыемстваў раена тады былі дробнымі, з невялікай колькасцю рабочых. Існавалі шэсць невялікіх цагельных заводаў, якія выпускалі 602 тысячы цаглін у год. Вядома, што самым буйным з цагельных заводаў была цагельня ў Ляхавай гары, якая выпускала 500 тысяч цаглін у год. У гэты час пачалася таксама распрацоўка белых кварцавых пяскоў у Ляхавай гары для шкляной прамысловасці Беларусі.

## З гісторыі вуліц Лоева

Гісторыя горада – гэта звычайна гісторыя яго вуліц і плошчаў. Не з'яўляецца выключэннем з гэтага і Лоеў, які мае цікавую, у многім яшчэ не даследаваную гісторыю сваіх вуліц. Якая яна, гісторыя вуліц Лоева, дзе яны размяшчаліся, якую назву насілі ў далёкім і больш блізкім мінулым ?

Пошукі адказаў на гэтыя пытанні прывялі нас у дзяржаўны архіў Гомельскай вобласці. Тут, у фондах архіва, удалося знайсці даведку аб назвах вуліц мястэчка Лоеў па стану на 3 студзеня 1923 г., падпісаную тагачасным сакратаром Лоеўскага сельсавета Фінкельбергам Е.О. З гэтай даведкі вынікае, што ў гэты час у верхняй палове мястэчка размяшчаліся вуліцы Базарная, Паштовая, Троіцкая, Чапегавая, Казярогавая, Сарокіна, Супрунова, Аднабочка, а таксама

101 Там жа.





У вёсцы Крупейкі дзейнічала прыпісаная да Свята-Троіцкага сабора драўляная царква.

Сабор адносіўся да першай благачыннай акругі Свірыдавіцкай царквы Рэчыцкага ўезда. На пачатку XX ст. святаром тут служыў спачатку Максім Шалкевіч, затым Канстанцін Сарачынскі. Яго прыход складалі вернікі верхняй часткі Лоева і вёсак Крупейкі, Шчытцы, Сінск. Прыхаджан налічвалася 1600 мужчын і 1621 жанчына. Царкоўнай зямлі было 43 гектары.[19]

15 лютага 1931 г. сабор быў закрыты бальшавіцкай уладай, званы здадзены ў металалом, маёмасць большай часткай знішчана, часткова перададзена кульасветустановам. Будынак сабора быў разбураны, а на яго месцы пабудавана школа.

Для малення вернікі на чале са святаром Германам вымушаны былі збірацца на прыватных кватэрах.

У 1946 г. вернікі разам са святаром ( па прозвішчу ў міру Сякач) дамагліся ў бальшавіцкіх улад дазволу на адкрыццё царквы ў Лоеве. Яны купілі два зрубы за Дняпром, перавезлі і ў лічаныя дні адбудавалі Свята-Троіцкую царкву на новым месцы, на старых Троіцкіх могілках у паўднёва-заходняй частцы Лоева. Была яна з дрэва і мела невялікія памеры.

5 чэрвеня 1990 г. настаяцелем Свята-Троіцкага сабора протаіерэем Міхаілам Мандрыкам быў закладзены паверх драўлянага бадынка царквы новы цагляны будынак сабора. Будаўніцтва сцен, даху, купалаў і пазалочаных крыжоў на саборы было закончана 21 лістапада 1990 г. Пабудаваны сабор на сродкі прыхаджан мясцовымі будаўнікамі і вернікамі з чырвонай, зробленай на мясцовым заводзе цэглы і абліцаваны белай цэглай. Храм цэнтрычны, крыжападобны ў плане з надбудаванай на галоўным фасадзе яруснай званіцай.

*(Іл-я 27. Свята-Троіцкі сабор у Лоеве. На пярэднім плане настаяцель храма пратаіерэй айцец Міхаіл (Мандрык). 2003 г..)*

У 1993 г. каля сабора была пабудавана званіца, адрэстаўрыраваны вароты і агароджа. У 1997 г. завершана афармленне 3 іканастасаў сабора жывапісам, разьбой і пазалотай.

У Лоеве ў 1746 г. была пабудавана на Лоевай гары ў паўднёвай частцы замчышча **Свята-Мікалаеўская царква.** У 1874 г. гэта царк-

19 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн. 1912.С., 214

ва была капітальна перабудавана.[20] Гэта быў драўляны будынак пабудаваны на мураваным фундаменце і пакрыты жалезным дахам,. Царква адносілася да крыжовакупальных храмаў з выцягнутым на падоўжанай восі караблём, адкрытым купалам пасярэдзіне і званіцай у франтоннай частцы. Вокны размяшчаліся ў адзін рад, вонкавыя сцены фарбаваліся бялілам, унутраная прастора мела крыжападобную форму, сцены ў інтэр'еры былі пабелены, у алтары распісаны, столь была падшыта цёсам. Алтар і салея ўзвышаліся на адну прыступку, асобна былі ўбудаваны кліросы. Іканастас абрамляўся калонамі, фарбаваўся ў сіні і чырвоны колеры з пазалочанымі карнізамі, упрыгожваўся разьбой. На ім у тры рады размяшчаліся 25 ікон. На званіцы было тры званы: вагой у 3,5, 8,5 і 15,5 пудоў.

У 1912 г. Свята-Мікалаеўская царква ўваходзіла ў першую благачынную акругу Свірыдавіцкай царквы Рэчыцкага ўезда. Святаром царквы служыў Васіль Сулкоўскі. У склад царкоўнага прыхода ўваходзілі ніжні Лоеў і вёскі Каўпень, Казярогі і Мохаў. У пачатку ХХ ст. вернікаў налічвалася 1782 мужчыны і 1784 жанчыны, царкоўнай зямлі было 54 гектары. Пры царкве працавала жаночая царкоўна-прыходская школа.[21]

Свята-Мікалаеўская царква была разграблена і разбурана мясцовай бальшавіцкай уладай у 1937 г, а яе сцены пайшлі на будаўніцтва памяшкання міліцыі. У 1956 г. фундамент царквы і падземныя царкоўныя скляпенні былі скінуты бульдозерам у Днепр пры падрыхтоўцы пляцоўкі пад будаўніцтва Палаца культуры.

У 1998 г. па ініцыятыве свяшчэнніка Свята-Троіцкага сабора Міхаіла Мандрыка на месцы Свята-Мікольскай царквы устаноўлены драўляны шасціканцовы крыж у памяць аб гэтай царкве.

**Свята-Мікалаеўская царква існавала і ў вёсцы Дзяражычы**. Яна была пабудавана з дрэва каля берага Дняпра. Час яе адкрыцця невядомы, але можна меркаваць, што гэта царква адна з самых старажытных на Лоеўшчыне.

Царква ўваходзіла ў склад другой благачыннай акругі Стрэлічаўскай царквы Рэчыцкага ўезда. Святаром у пачатку ХХ ст. тут служыў Платон Зелецянкевіч.[22]

Дзяражыцкі царкоўны прыход складалі вернікі 8 вёсак Дзяражыц-

20 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 139.

21 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.214

22 Там же. С. 214.





існавалі дзве паштовыя станцыі: у Ісакавічах і ў Лоеве. Непасрэдна ў Лоеве на пачатку ХХ ст. паштовая станцыя мела 12 коней, 5 ямшчыкоў і 5 паштовых экіпажаў.[97]

Каля Лоева былі дзве пастаянныя паромныя пераправы, пераправы існавалі таксама каля вёсак Дзяражычы і Суткоў.

У 1909 г. ў Лоеве прадпрымальнікам Кандаковым быў пабудаваны завод па вытворчасці фарбаў з мясцовых фарбавых руд" Фарбацвет ". Памяшканне завода захавалася да нашага часу. Размяшчаецца яно па вул. Пінчука 47. Гэта аднапавярховы будынак прамавугольнай у плане формы. Завод выпускаў сухія мінеральныя фарбы з мясцовых глін: охру, сурык, мумiё, уімбру. Лоеўская охра з фарбавых руд у Ляхавай гары была вельмі якаснай, яна карысталыся значным попытам і нават экспартавалася ў Заходнюю Еўропу. У часы НЭПа завод арандаваў інжынер Энштэйн.[98]

У 30-ыя гады памяшканне завода было перададзена Прамкамбінату. У пасляваенныя часы ў памяшканні былога завода размяшчаўся фарбава-сетачны цэх Лоеўскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, зараз памяшканне не выкарыстоўваецца.

Значэнне Лоева ўзрасло з пабудовай у 1914 г. драўлянага маста праз Днепр, які звязаў мястэчка з Украінай, але мост праіснаваў усяго 5 гадоў. Зараз захаваліся толькі рэшткі пад'язной дарогі да маста – кавалак насыпу даўжыней 35 м, шырыней 5 м. Знаходзіцца ён на адлегласці 0,5 км на поўдзень ад Лоева ў даліне Дняпра. Мост быў пабудаваны ваенным ведамствам Расіі ў чэрвені 1914 г., а ўзарваны вясной 1920 г. ў час савецка-польскай вайны.[99]

На пачатку 1926 г. ў мястэчку Лоеў дзейнічалі канатны і гарбарны заводы, хлебабулачныя і кандытарскія пякарні, кузні, млыны, фотамайстэрня, пераплетная, гадзіннікавая, некалькі сталярных, слясарных, шавецкіх, кравецкіх, панчошных майстэрняў.[100]

У 1929 г. на Ляхавай гары была пабудавана першая на Беларусі шахта па распрацоўцы мінеральных фарбавых руд для вытворчасці фарбаў, якая дзейнічала да пачатку 60-х гадоў .

У пачатку 30-х гадоў у Лоеве працавалі лесапільня, два конныя, паравы і ветраны млыны, кравецкая, шавецкая, кошыкавая май-

97 Там жа. С.43.

98 Анісавец М,. Анісавец В. Помнікі і памятныя месцы Лоеўшчыны. Лоеў, 1999.С.27.

99 Там жа.

100 Памяць. Лоеўскі раён. Мн., 2000. С.580.

Крупейкі каля шасейнай дарогі, што вядзе з Лоева на Брагін.
У Лоеве ў XIX ст. працавалі дзве цагельні, існавалі таксама памешчыцкія цагельні ў вёсках Бывалькі і Чаплін.

Шматпрофільнымі былі гаспадаркі мясцовых памешчыкаў Лашчоў і графіні Бараноўскай. Напрыклад, у графіні Бараноўскай у маёнтку Суткоў працавалі лесапільня, паравы млын і вінакурны завод.

Захавалася да нашага часу памяшканне вінакурнага завода графіні Бараноўскай у вёсцы Пярэдзелка. Размяшчаецца яно на паўночнай ускраіне вёскі. Асноўныя памяшканні завода пабудаваны ў XIX стагоддзі. У гады існавання "Дняпроўскай камуны" у гэтым памяшканні працавалі крухмальны і каўбасны цэхі, хлебапякарня.[94]

Захавалася і памяшканне школы, размешчанае ў цэнтры вёскі Хамінка. Школу пабудавала з цэглы ў 1916 г. за свае сродкі княгіня Ірына Паскевіч. Гэта аднапавярховы будынак прамавугольнай у плане формы, першапачаткова ён быў пакрыты чатырохсхільным вальмавым дахам.

У новы час вытворчыя прадпрыемствы размяшчаліся ў асноўным у Лоеве. Вядома, што ў 1897 г. у мястэчку было 7 ветраных і 2 вадзяных млыны, 24 крамы і гандлевыя канторы, паштовая станцыя.[95]

З гістарычных крыніц вядома, што Лоеў у канцы XIX ст. быў буйнай па тым часе па грузаабароце пристанню, тут знаходзіліся вялікія саляныя і іншыя таварныя склады. Акрамя гэтага, Лоеў быў канцавым пунктам параходных маршрутаў Магілёў-Лоеў, Бабруйск-Лоеў. Па Дняпры плавалі тады толькі пласкадонныя судны: баркі, бярліны, шляры, дубы і платы, а таксама 18 параходаў, 13 з якіх былі прыстасаваны для перавозкі пасажыраў і мелі камфартабельныя каюты 1-га і 2-га класаў.[96]

У XIX ст. ў Лоеве дзейнічала суднаверф., якая размяшчалася на беразе затокі "Рачышча". Вядома, што на Лоеўскай суднаверфі будаваліся лепшыя ў тыя часы ў басейне Дняпра драўляныя судны. Акрамя прыстані ўЛоеве, існавала таксама прыстань у Дзяражычах.

Сам Лоеў размяшчаўся на рэчыцка-чарнігаўскім паштовым тракце, таксама адсюль да Чарнобыля Кіеўскай губерні ішоў важны ваенна-камунікацыйны шлях. На Чарнігаўскім тракце ў межах раена

94 Анісавец М., Анісавец В. Помнікі і памятныя месцы Лоеўшчыны. Лоеў, 1999.С.27.
95 Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т.4.Мн., 1997. С.389.
96 Памяць. Лоеўскі раён. Мн., 2000. С.70.





кай воласці: прыхаджан налічвалася 3053 мужчын, 3082 жанчын. Царкоўнай зямлі было 101 гектар.[23] Царква закрыта і разбурана ў гады савецкай улады, зараз на яе месцы вернікамі ўстаноўлены крыж.

**Свята-Мікалаеўская царква дзейнічала ў вёсцы Казіміраўка.** Пабудавана яна была з дрэва ў 1886 г. Царква ўваходзіла ў склад першай благачыннай акругі Свірыдавіцкай царквы Рэчыцкага ўезда. Святаром тут служыў спачатку Ануфрый Кучынскі, а затым Міхаіл Драздоўскі.[24] Казіміраўскі царкоўны прыход складалі жыхары 5 вёсак: прыхаджан налічвалася 1406 мужчын і 1624 жанчыны. Царкоўнай зямлі было 95 гектараў. Пры царкве ў вёсцы Казіміраўка існавала царкоўна-прыходская школа.[25]

Царква была зачынена савецкай уладай і пераабсталявана пад школу. У 1995 г. царква Пакрава Прасвятой Багародзіцы адчынена ў суседняй вёсцы Пярэдзелка.

**Свята-Вазнясенская царква існавала ў вёсцы Ручаёўка.** Пабудавана яна была ў 1872 г. Царква ўваходзіла ў склад першай благачыннай акругі Стрэлічаўскай царквы Рэчыцкага ўезда. Святаром тут служыў спачатку Фёдар Казлоўскі, затым Самуіл Ачапоўскі.[26] Ручаёўскі царкоўны прыход складалі вернікі 19 вёсак Ручаёўскай воласці: прыхаджан налічвалася 2940 мужчын і 2833 жанчыны. Царкоўнай зямлі было 167 гектараў.[27] Царква ўзарвана нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г.

**У вёсцы Уборкі дзейнічала царква Ражаства Багародзіцы.** Была яна пабудавана з дрэва ў 1892 г. Царква ўваходзіла ў склад першай благачыннай акругі Свірыдавіцкай царквы Рэчыцкага ўезда. Святаром тут служыў спачатку Самуіл Ачапоўскі, затым Аляксей Меліораў.[28] Прыход складалі вернікі 16 вёсак: прыхаджан на 1905 г. было 1919 мужчын і 1859 жанчын. Царкоўнай зямлі было 5 гектараў. Пры царкве была адкрыта двухкласная царкоўна-прыходская школа.[29] Царква згарэла восенню 1943 г. у час Вялікай Айчыннай вайны. У 2004 г. царква ў вёсцы Уборкі адноўлена вернікамі.

23 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 142.
24 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.214
25 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 139.
26 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.215.
27 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 143.
28 Памятная книга Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.214.
29 Товаров А. Историко-статистический справочник. Книга Минской епархии. Мн., 1903. С. 140.

**Свята-Георгіеўская царква існавала ў вёсцы Хамінка.** Была яна пабудавана ў цэнтры вёскі. Яе прыход складалі вернікі населеных пунктаў Абакумы, Карпаўка, Хамінка, Шарпілаўка і іншых вёсак зарэчнай зоны Лоеўскага раёна. Разбурана ў кастрычніку 1943 года ў час баёў за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Зараз царква пабудавана ў суседняй в. Шарпілаўка Гомельскага раёна.

**Каля вёскі Крупейкі існавала капліца і царква.** Размяшчаліся яны каля крынічкі са святой вадой на паўднёвы захад ад вёскі. Капліца была пабудавана ў гонар святой вялікамучаніцы Параскевы. Існуе паданне, што некалі на сасне каля крынічкі явілася ікона святой Параскевы. Гэта паслужыла падставай для будаўніцтва вернікамі на гэтым месцы каплічкі. У 1872 г. каля капліцы была пабудавана драўляная царква, перавезеная з Ручаёўкі. Царква адносілася да Свята-Троіцкага царкоўнага прыхода. Каля каплічкі і царквы штогод на “Дзесятуху” – у дзесятую нядзелю пасля Вялікадня ў пятніцу і суботу – адбываліся двухдзённыя кірмашы і гулянні, набажэнствы ў царкве. У гэтыя дні да капліцы прыходзілі многія паломнікі з Украіны і Расіі і іншых месцаў.[30]

У савецкія часы царква і каплічка былі разбураны, крынічка высахла. У 1997 г. протаіероэем Міхаілам Мандрыкам была занава адбудавана капліца і зроблена, на жаль,безвыніковая спроба аднавіць крыніцу. *(Іл-я 27а. Капліца нябеснай заступніцы Лоева Святой Параскевы каля в. Крупкйкі.)*

У ”Памятной книге Минской губернии на 1913 год” ёсць звесткі, што ў 1912 г. на Лоеўшчыне існавалі яшчэ дзве царквы і прыходы, прыпісаныя да другой благачыннай акругі Стрэлічаўскай царквы Рэчыцкага ўезда: **царква ў в. Баршчоўка,** у якой святаром быў спачатку Мікалай Кацельнікаў, а затым Мікалай Былінскі, і царква ў в. Бывалькі – святар Яфрэм Марчанка.[31] Гэта дае падставы меркаваць, што гэтыя царкоўныя прыходы былі ўтвораны ў самым пачатку XX ст. Іншых звестак аб гэтых царквах пакуль не знойдзена. У 2010 г у в. Бывалькі пачала дзейнічаць царква "Усіх смуткуючых Радасць", іконы Божай Маці, а ў 2015 г. распачата будаўніцтва царквы прэпадобнай Ефрасініі Полацкай у в. Малінаўка.

30 Анісавец М., Анісавец В. Помнікі і памятныя месцы Лоеўшчыны. Лоеў, 1999. С. 23-24.

31 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.215.





Лоеўшыны ўваходзіла ў арэал рассялення ўсходнеславянскага племяннога аб’яднання дрыгавічоў, якія засялялі поўдзень Беларусі ад Лоева амаль да Брэста.

Аб гістарычным мінулым нашага краю шмат могуць расказаць як помнікі археалогіі, так і старыя гаспадарчыя пабудовы, рэшткі вытворчых памяшканняў і вытворчасцяў, якія захаваліся да нашага часу. Усе яны называюцца помнікамі гаспадарчай дзейнасці.

Зараз на тэрыторыі Лоеўшчыны захавалася толькі невялікая колькасць помнікаў гаспадарання, хаця вядома, што яшчэ ў даўнія часы тут існавалі кустарныя промыслы па здабычы балотнай руды і выплаўцы жалеза (рудні), нарыхтоўцы драўнянага вугалю, вінакурні, вадзяныя млыны і іншыя вытворчасці. Аб развіцці металургіі з выкарыстаннем балотных руд сведчаць назвы вёсак раёна: Рудня-Бурыцкая, Рудня-Каменева, Рудня-Пясочная, Рудня-Удалеўская. На шматлікіх гарадзішчах і селішчах у час раскопак знойдзены абломкі горнаў, жужаль і іншыя рэшткі металургічнай вытворчасці. Аб высокай культуры металургіі сведчаць і знойдзеныя тут вырабы з жалеза: нажы, наканечнікі коп'яў, фібулы і спражкі.

Месца па выпальванню драўнянага вугалю "Міхалеўшчына" выяўлена каля вёскі Міхалёўка. Размешчана яно ва ўрочышчы Глінішча ў 34 квартале Лоеўскага лясніцтва. Тут знойдзены ў лесе два месцы, дзе ў сярэднявеччы існавала вытворчасць па выпальванню вугалю з дрэва.[92]

Рэшткі вадзянога млына выяўлены на адлегласці 3 км на паўночны захад ад Лоева, на рэчцы Вітач ва ўрочышчы "Млінок". Час яго пабудовы невядомы, але ёсць усе падставы сцвярджаць, што млын існаваў ужо ў сярэдзіне XVII ст. Ёсць звесткі, што на пачатку XX ст. мукамольны вальцовы млын належаў прадпрымальнікам Б.Мольскаму і В.Закрэўскаму, на ім працавала 10 чалавек. Падчас крызісу 1900-1905 гг. млын спыняў вытворчасць.[93] Старажылы сцвярджалі, што гэты млын згарэў у час пажару ў 1910 г. і пасля ўжо не аднаўляўся. Зараз на гэтым месцы захаваўся земляны насып ад плаціны і тры драўляныя палі на сярэдзіне Вітача. *(Іл-я 34. Урочышча “Млінок”, месца, дзе знаходзіўся вадзяны млын.)*

Рэшткі плаціны ад вадзянога млына захаваліся і ў цэнтры вёскі

92 Анісавец М., Анісавец В. Помнікі і памятныя месцы Лоеўшчыны. Лоеў,1999.С.27.

93 Памяць. Лоеўскі раён. Мн., 2000. С.54

прымальніку Карпенка Дзмітрыю, які, адпаведна паданню, выйграў у пана Лашча ў час картачнай гульні 3 гектары зямлі разам з садам і пабудаваў на ёй дом. Будынак аднапавярховы, прамавугольны ў плане, выцягнуты ў мерыдыянальным накірунку, атынкаваны. Паверхня сцен фасада прарэзана лучковымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Першапачаткова дом быў пакрыты чатырохсхільным вальмавым дахам.

У 30-х гадах дом быў адабраны савецкай уладай, а Карпенка Дзмітрый з сям'ёй сасланы ў ссылку. Пасля Вялікай Айчыннай вайны ў доме размяшчаўся дзетдом, затым у 60-80-я гады – райваенкамат. У 1979 г. да дома з паўночнага боку ўзведзена сіметрычная прыбудова з цэглы. У 2005-2009 гг. была праведзена рэканструкцыя будынка, зараз у ім знаходзіцца рэабілітацыйны цэнтр упраўлення па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Лоеўскага райвыканкома.

## Помнікі гаспадарання

Лоеўшчына… Цудоўны і маляўнічы куток на паўднёва-усходняй ускраіне Беларусі. Зямля, якую ўпадабалі і засялілі нашы прашчуры яшчэ ў далёкай старажытнасці. Якой была яна ў мінулым, хто тут жыў і валодаў ёю, пачынаючы з сівой даўніны ? Гэтыя пытанні, напэўна, цікавяць не толькі гісторыкаў.

Дзве старажытныя стаянкі людзей мезаліту – сярэдняга каменнага веку ( 6-5 тысячагоддзі да н.э.), выяўлены археолагамі на Лоеўшчыне каля весак Рэкорд і Старая Лутава. Але ёсць усе падставы меркаваць, што Лоеўская зямля ўваходзіла ў арэал рассялення першабытнага чалавека яшчэ раней: у палеаліце – старажытным каменным веку.

Стаянку бронзавага веку і магільнік сярэдзіны II тысячагоддзя археолагі знайшлі каля вескі Дзяражычы. Лоеўшчына была густа заселена ў раннім жалезным веку. Аб гэтым сведчаць 24 гарадзішчы,12 селішчаў, 9 могільнікаў ранняга жалезнага веку, знойдзеных і даследаваных археолагамі на тэрыторыі раёна.[91]

Хто былі гэтыя людзі ? Да якой моўнай сям'і народаў яны належалі ? Вучоныя па гэтых пытаннях пакуль не прыйшлі да адной высновы.

Затое гістарычныя помнікі больш позняга перыяду дазваляюць дакладна вызначыць, што ў IX-X стст. большая частка тэрыторыі

91 Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн. 1985. С.234-247.



*М. Анісавец · На скрыжаваннях шляхоў, межаў і эпох.Частка II·*

## Ад вытокаў асветы

Развіццё асветы на Лоеўшчыне было цесна звязана з палітычнымі, сацыяльна-эканамічнымі і культурнымі працэсамі ў тых дзяржаўных утварэннях, у склад якіх уваходзіў гэты рэгіён на працягу сваёй гісторыі. Вядома, што ў часы існавання Кіеўскай Русі ў X-XIII стст. Лоеўшчына знаходзілася ў складзе Чарнігава-Северскага княства. Гэта былі землі з багатымі культурнымі традыцыямі, дзе існавала пісьменнасць, развіваліся фальклор, літаратура, жывапіс і архітэктура.

У XIV ст. Лоеўская зямля ўвайшла ў склад Вялікага княства Літоўскага – Радзімы славутага беларускага і ўсходнеславянскага першадрукара і асветніка Францыска Скарыны, адной з высокаразвітых краін Еўропы таго часу, затым знаходзілася ў складзе Рэчы Паспалітай. Ужо да XVI ст. на Беларусі склалася сістэма школьнай адукацыі, якая абапіралася на царкоўныя ўстановы. Школы ўтрымліваліся на сродкі праваслаўных брацтваў, пратэстанцкіх збораў, каталіцкіх ордэнаў, школы для яўрэйскай моладзі ўтрымліваліся яўрэйскай абшчынай-кагалам. Звычайна ў школах вучыліся хлопчыкі, дзяўчынкі атрымлівалі толькі хатнюю адукацыю.

Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Лоеўшчына была далучана да Расійскай імперыі, што больш чым на тры стагоддзі стала вызначальным фактарам у развіцці краю, у тым ліку і ў сферы адукацыі. Пры імператрыцы Кацярыне II у канцы XVIII ст. былі зроблены першыя спробы арганізацыі народнай асветы на дзяржаўным узроўні. У часы царавання Аляксандра I у 1803-1804 гг. распачалася рэформа сістэмы адукацыі, якая зыходзіла з прынцыпу ўсесаслоўнасці і свецкасці школы. Акрамя іншых мерапрыемстваў, рэформа вызначыла і сістэму школ: гімназіі ў губернскіх гарадах, павятовыя вучылішчы ў павятовых цэнтрах, прыходскія вучылішчы ў мястэчках і на вёсцы. Першыя прызваны былі даваць сярэднюю, другія - няпоўную сярэднюю, трэція - пачатковую адукацыю. У гарадскіх прыходскіх вучылішчах, акрамя агульнаадукацыйных прадметаў, вывучаліся і рамёствы. Адкрыццё пачатковых школ для сялян ускладалася на памешчыкаў. Ва ўсіх тыпах школ на Беларусі асноўнай мовай навучання была польская мова, выкладанне на

рускай мове наладжвалася толькі пры жаданні бацькоў вучняў.

У 1836 г. расійскі імператар Мікалай І прапанаваў праваслаўным святарам стварацць пры цэрквах і манастырах школы для навучання"пасялянскіх" дзяцей Закону Божаму, чытанню, пісьму і лічэнню.У сувязі з гэтым, 29 кастрычніка 1836 г. Свяшчэнны Сінод сваёй пастановай даручыў увесці навучанне "пасялянскіх" дзяцей у тых населеных пунктах, дзе мясцовыя святары пагаджаліся бясплатна выконваць абавязкі настаўнікаў. Выконваючы гэтую пастанову Мінская духоўная кансісторыя ўсклала навучанне дзяцей на "здольных" прычэтнікаў, а дзе такіх не было, на саміх святароў. У выніку, з 1836 г. на тэрыторыі Мінскай епархіі сталі адкрывацца царкоўныя школы, якія ў справаздачах называліся "пасялянскімі вучылішчамі, заведенымі пры прыходскіх цэрквах і манастырах".

Стварэнню царкоўных школ садзейнічала таксама зацвярджэнне імператарам Мікалаем І 27 сакавіка 1841 г. статута духоўных кансісторый, у якім даручалася епархальнаму кіраўніцтву садзейнічаць і стымуляваць прыходскае святарства да стварэння і ўтрымання вучылішчаў пры прыходскіх царквах.

У сваёй педагагічнай дзейнасці святары павінны былі кіравацца "Правіламі навучання пасялянскіх дзяцей" 1836 года. Адпаведна з гэтымі правіламі святары бясплатна навучалі дзяцей чытанню царкоўнай і грамадзянскай літаратуры, некаторым малітвам, а жадаючых і пісьму, знаёмілі з галоўнейшымі падзеямі свяшчэннай гісторыі, тлумачылі па катэхізісу малітвы, сімвал веры, запаветы. Навучэнцы абавязаны былі вывучыць на памяць некаторыя малітвы (напрыклад, малітву Гасподню), ведаць сімвал веры, 10 запаветаў, верш "Багародзіца, Дзева, радуйся…" Навучэнцы, дасягнуўшыя поспехаў у навучанні, заахвочваліся ўдзелам у царкоўных багаслужэннях у святочныя дні. Школьныя падручнікі, часасловы, псалтыры і іншую неабходную для навучання літаратуру святарам неабходна было набываць за царкоўныя сродкі.

Прыняла удзел у арганізацыі царкоўных школ у 40-х гадах XIX ст. і святарства Лоеўскага благачыня. На жаль, да сярэдзіны XIX ст. ёсць толькі фрагментарныя звесткі аб сістэме навучальных устаноў на Лоеўшчыне. Так, на 20 кастрычніка 1847 г. у Лоеўскім маёнтку Юдзіцкіх дзейнічалі два вучылішчы. Вядома таксама, што да 1861





крапаваны руставанымі лапаткамі. Паверхня сцен прарэзана лучковымі аконнымі праёмамі з налічнікамі. Па перыметру будынка пад дахам праходзіць складаны карніз з дэкорам у выглядзе сухарыкаў.[90] У1929 г. дом быў муніцыпалізаваны савецкай уладай. Пасля вайны будынак быў унесены ў дзяржаўны рэестр помнікаў архітэктуры XIX ст.

Доўгі час у будынку размяшчалася гасцініца, затым раённая бібліятэка, а зараз аддзяленне Дзяржстраха і аб'яднаны райкам прафсаюзаў. У 2005 г будынак рэканструяваны. *(Іл-я 32.Купецкі дом па вуліцы Леніна 6.)*

Зараз дакладна невядома каму належаў купецкі дом па вуліцы Леніна 6. Магчыма, гэты будынак належаў знакамітаму яўрэю Гілю. Пабудаваны ён з цэглы ў другой палове XIX ст. Будынак уяўляе сабой квадратную ў плане двухпавярховую пабудову, пакрытую чатырохсхільным вальмавым дахам. Спачатку на першым паверсе будынка была крама, на другім паверсе – жылыя памяшканні. Пасля Вялікай Айчыннай вайны тут доўгі час размяшчаўся райкам КПБ, зараз рэдакцыя раённай газеты.

На пачатку XXI ст. ён унесены ў дзяржаўны рэестр помнікаў архітэктуры XIX ст. У 2009 г будынак быў рэканструяваны. *(Іл-я 33.Купецкі дом па вуліцы Леніна 23.)*

Зараз вядома, што дом па вуліцы Леніна 23 пабудавала ў самым канцы XIX ст. заможная беларуская сям'я Яўхіма Байдака, якую ў Лоеве называлі "Міндзікі". На пачатку XX ст. гэты дом купіла яўрэйская сям'я, прозвішча якой невядома. Вядома толькі, што ў доме была крама, дзе гандлявалі тканінамі, якой валодала яўрэйка Бройна, але, верагодна, яна мела пашыранае яўрэйскае імя Броня.

Пабудаваны дом з цэглы ў канцы XIX ст. Гэта аднапавярховая, прамавугольная ў плане пабудова, пакрытая трохсхільным дахам. Па перыметру будынка праходзіць складаны карніз у выглядзе сухарыкаў.

У 1929 г. дом быў муніцыпалізаваны савецкай уладай. Зараз у гэтым памяшканні размяўчаецца Лоеўскі разліковы цэнтр банкаўскіх паслуг № 316 філіяла № 300 Гомельскага абласнога ўпраўлення "АСБ Беларус банка". У 1990 г. да дома з усходняга боку прыбудаваны двухпавярховы будынак адміністрацыі банка, а ў 2008-2009 гадах праведзена рэканструкцыя дома. На пачатку XXI ст. ён унесены ў дзяржаўны рэестр помнікаў архітэктуры XIX ст.

Мае гістарычную каштоўнасць для лаячан і дом па вуліцы Шэвелева 59. Пабудаваны ён з цэглы ў 1910 г. Належаў мясцоваму прад-

90 Там жа.

У канцы XIX – пачатку XX ст. ў Лоеве заможнымі жыхарамі мястэчка пачалі ўзводзіцца мураваныя дамы, якія будаваліся ў новым рацыянальным стылі канструктывізму. Да нашага часу захавалася 5 такіх будынкаў. Усе яны маюць сваю архітэктурную адметнасць і каштоўнасць.

Самым старым будынкам у Лоеве зараз з'яўляецца купецкі дом па вуліцы Савецкай 1. Пабудаваны ён у 1874 г. з цэглы лоеўскім купцом Навумам Долгіным. Долгін з сынамі займаўся сплавам лесу на лайбах (баржах) уніз па Дняпру аж да Дняпрапятроўска, і на гэтым разбагацеў. У 1910 г. з правага боку да будынка ён прыбудаваў сіметрычную прыбудову, а левую частку дома перабудаваў. У двухпавярховым доме было каля 20 пакояў ( на першым паверсе – 9 пакояў вялікіх памераў, на другім – 9 пакояў з кухняй). Першы паверх выкарыстоўваўся пад гасцініцу. У 1930 г. дом у Долгіных адабрала савецкая ўлада.

Будынак уяўляе сабой прамавугольную ў плане двухпавярховую пабудову, пакрытую чатырохсхільным вальмавым дахам. Галоўны фасад раздзелены па вертыкалі складаным карнізам з арнаментам і сухарыкамі-элементамі, характэрнымі для бесстылевых пабудоў другой паловы XIX ст. Па гарызанталі праходзіць рытм руставаных лапатак. *(Іл-я 30. Дом купца Навума Долгіна па вуліцы Савецкай 1.)*

Паверхня сцяны першага паверха прарэзана лучковымі аконнымі праёмамі, упрыгожаны замкавым камнем, вокны другога паверха дэкарыраваны налічнікамі, сандрыкамі і арнаментам. Увесь набор дэкаратыўных элементаў, выкарыстаных у дэкаратыўным узоры характэрны для эклектычных пабудоў другой паловы XIX ст., частка з іх запазычана з архітэктуры неакласіцызму.[89] Пасля вайны будынак быў унесены ў дзяржаўны рэестр помнікаў архітэктуры XIX ст.

Доўгі час у гэтым доме размяшчаўся райвыканкам, а зараз аддзел культуры райвыканкома і раённая бібліятэка. У 1997-2003 гг. будынак раканструяваны.

Значную цікавасць выклікае архітэктура купецкага дома па вуліцы Савецкай 4. Пабудаваны ён у канцы XIX ст. з цэглы у стылі эклектыкі, з выкарыстаннем элементаў неакласіцызму. Хто яго пабудаваў і валодаў ім дакладна невядома, але ёсць меркаванне, што гэты будынак належаў брату Навума Долгіна. *(Іл-я 31.Купецкі дом па вуліцы Савецкая 4.)*

Гэты дом пабудовны ў двух узроўнях: знізу маюцца паўпадвальныя памяшканні, верхні этаж у плане прамавугольны, пакрыты чатырохсхільным вальмавым дахам. Яго галоўны фасад сіметрычны,

89 Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985. С.235.





г. ў Лоеве працавалі два хедэры – яўрэйскія школы. У вытрымцы са справаздачы настаўніка Лоеўскага народнага вучылішча А. Карповіча ад 24 жніўня 1895 года сцвярджаецца: "Да 1863 г. адукацыяй дзяцей у Лоеве займаўся мясцовы псаломшчык. Па яго словах, у яго доме штогод навучалася 20 хлопчыкаў".[32]

Колькасць навучэнцаў ў школах рэгіёна складала 8% ад агульнай колькасці насельніцтва.[33] Галоўнай задачай было навучыць чытаць трэбнік, вывучыць на памяць малітвы і спяваць псалмы. На гэтым часта адукацыя і заканчвалася. Не дзіўна таму, што на вёсцы рэдка хто ўмеў чытаць, а тым болей пісаць Сістэма школьнай адукацыі звычайна дапаўнялася хатняй адукацыяй, якою маглі карыстацца дзеці шляхты і заможных гараджан. Не толькі вышэйшую, але і сярэднюю адукацыю ў тыя часы можна было атрымаць толькі далёка за межамі Лоеўшчыны. Таму можна з вялікай упэўненасцю меркаваць, што толькі адзінкі нашых землякоў з маёмасных класаў у тыя часы маглі атрымаць добрую адукацыю.

Прычыны, якія стрымлівалі развіццё царкоўна-школьнай справы на Лоеўшчыне выкладзены ў данясенні ў лістападзе 1849 г. Лоеўскага благачыннага святара Антонія Гунковіча ў Мінскую духоўную кансісторыю, аб тым, што святары "Холмецкай, Дзяражыцкай, Хракавіцкай, Жараўскай, Ручаёўскай, Ёлчанскай, Лоеўскіх Троіцкай і Мікалаеўскай, Глушанскай і Казіміраўскай" цэркваў на працягу 1849 г. не займаліся навучаннем дзяцей сваіх прыхаджан. Ён цвярджаў што памешчыкі рашуча адмаўляліся ад будаўніцтва вучылішчаў пры цэрквах. У выніку ні адна царква Лоеўскага благачыння ў 1849 г. не мела сваіх будынкаў для вучылішчаў. У той жа час, святары не маглі праводзіць урокі ў сваіх дамах, таму што самі жылі " у вельмі цесных памяшканнях". Да таго ж, самі сяляне, "баяліся адмоўнага стаўлення сваіх паноў" і адмаўляліся накіроўваць сваіх дзяцей вучыцца.[34]

Другая палова XIX ст. ў гісторыі Расійскай імперыі характарызавалася адменай прыгоннага права і хуткім развіццём капіталістычных адносін у вытворчасці. Развіццё капіталістычных адносін у сваю чаргу выклікала аб'ектыўную патрэбнасць грамадства ў аду-

32 Долатаў А. Дапаможнік па краязнаўству Лоеўшчыны. Лоеў, 2002. С.72.

33 Брагина Н. Становление и развитие образования на Лоевшине с древнейших времён до революции 1917 года.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель. 2006.С.75.

34 Восович С. Развитие церковных школ Св.Синода на территории Лоевшины в 40-х гг. XIX в.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель. 2006.С.73.

каваных кадрах, што падштурхнула ўлады да рэформы адукацыі. Па расійскаму “Палажэнню аб народных вучылішчах” выдадзенаму ў 1864 г., навучальныя ўстановы розных ведамстваў у сваёй большасці былі перададзены Міністэрству народнай асветы. Утваралася сістэма пачатковай адукацыі ў аснове якой ствараліся пачатковыя прыходскія школы пры царквах, народныя вучылішчы на вёсцы, гарадскія вучылішчы ў гарадах і мястэчках. Толькі ў Мінскай губерні з 1864 па 1868 гг. колькасць народных вучылішчаў узрасла на 128.[35] Сярэднюю адукацыю давалі гімназіі двух тыпаў: класічныя і рэальныя з тэрмінам навучання 7 гадоў, прагімназіі з навучаннем ад 4 да 6 гадоў, жаночыя гімназіі, настаўніцкія і духоўныя семінарыі і ваенныя вучылішчы.

Першае народнае вучылішча ў Лоеўскай воласці было адкрыта ў Лоеве ў 1863 г. ў старым будынку валаснога ўпраўлення. Спачатку вучылішча было змешанага тыпу ( у ім навучаліся і хлопчыкі і дзяўчынкі), а затым пераўтворана ў мужчынскае . На яго ўтрыманне адпускалася 175 рублёў з дзяржаўнай казны і 33 рублі ад воласці. У вучылішчы навучалася 55 хлопчыкаў і 15 дзяўчынак. Адным з першых настаўнікаў Лоеўскага вучылішча быў Конан Дулуб, які скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю.[36] У 1864 г. народныя вучылішчы былі адкрыты ў Ручаёўцы, дзе ўжо ў першы год вучыліся 21 хлопчык і 3 дзяўчынкі, і Дзяражычах. Гэтыя вучылішчы ўтрымліваліся на сродкі дзяржаўнага казначэйства і сялянскай грамады. Адным з першых настаўнікаў у Ручаёўцы працаваў Фёдар Карповіч, які скончыў курс Нясвіжскай семінарыі, а ў Дзяражычах – Самуіл Рыгоравіч Касцюкевіч (1847-1909 гг.), таксама выхаванец Нясвіжскай семінарыі

Змест навучальнага курса ў гэтых вучылішчах вызначаўся “Палажэннем аб пачатковых народных вучылішчах”: закон Божы, чытанне грамадзянскага і царкоўнага друку, чатыры правілы арыфметыкі і царкоўныя спевы. Закон Божы выкладалі святары (законанастаўнікі), а астатнія прадметы – настаўнікі. І адны і другія павінны былі выхоўваць дзяцей у рэлігійным духу, адданасці самадзяржаўю і Расійскай імперыі.Выкладанне праводзілася толькі на рускай мове. Большасць сродкаў на ўтрыманне школы атрымоўва-

35 Матусевіч Н. Прававое і матэрыяльнае становішча настаўнікаў пачатковай школы на Беларусі ў другой палове XIX-пачатку XX стст.// Беларускі гістарычны часопіс. № 1. 2001. С. 54.

36 Памяць. Лоеўскі раён: Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн., 2000. С.579.





ным франтонам. Такі ж порцік размешчаны ў цэнтральнай частцы дваровага фасада. Паверхня сцен цэнтральнай часткі сядзібнага дома раздзелена па вертыкалі прафілеяваным карнізам і прарэзана двума радамі высокіх прамавугольных аконных праёмаў. На першым паверсе паверхня сцен дэкарыраваны сярэднім рустам. Вокны абрамлены простымі наліčнікамі і ўпрыгожаны на першым паверсе трохвугольнымі, а на другім паверсе прамавугольнымі сандрыкамі.

Паміж чатырох калон галоўнага фасада размешчаны шырокі балкон, такі ж балкон быў пабудаваны і з другога ўсходняга боку.[88]

Будынак сядзібнага дома адкрываецца з боку пад’язной алеі парка, які, на жаль, захаваўся толькі часткова, але даносіць да нас рысы рэгулярнага сядзібнага парку эпохі класіцызму. Плошча больш за 5 гектараў. Парк пейзажнага тыпу размяшчаецца ўздоўж стромкага берага Дняпра. Ён падзяляецца ярам на паўночную і паўднёвыя часткі. Найбольш зберагласся яго прыбярэжная частка.

У парку растуць мясцовыя дрэвавыя пароды, а таксама больш за 20 асобных каштоўных парод, у тым ліку акацыя белая, ліпа буйналістая і дробналістая, лістоўніца еўрапейская, птэлея трохлістая, таполя пірамідальная, ясень звычайны і плакучы і іншыя. Парк перспектыўны для аднаўлення.

Пасля смерці Станіслава Юдзіцкага ў 1928 г. памесце дасталася ў спадчыну яго дачцэ Юліі, якая неўзабаве ўключыла Сутkоўскае памесце ў спадчыннае ўладанне свайго мужа Яна Казіміравіча Рудзіеўскага. У 1870 г. ўнук Станіслава Юдзіцкага Генрых Рудзіеўскі па невядомай прычыне прадаў Суткоўскае памесце Чайкоўскай, ад якой тое памесце ў хуткім часе выкупіла сям’я Бараноўскіх. Бараноўскія былі апошнімі уладальнікам палаца да снежня 1918 г.

У 1919 г. сядзіба стала цэнтрам таварыства па сумеснай апрацоўцы зямлі, затым –“Дняпроўскай камуны”, а з 1924 г. і да цяперашняга часу ў гэтым будынку размяшчаецца Суткоўская сярэдняя школа.

З XVIII ст. у Лоеве існавалі два драўляныя палацы паноў Лашчоў. Былі яны пабудаваны на каменным фундаменце, адзін – у цяперашнім парку ў цэнтральнай частцы замчышча, другі – на паўночнай ускраіне Лоева на беразе Дняпра. Палацы да нашага часу не захаваліся. Вядома, што палац на замчышчы згарэў у 1943 г. ў час вызвалення Лоева ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Засталася толькі драўляная абкладзеная цэглай хата другой па ліку жонкі пана Станіслава Лашча, якая была з сялян. У 30-х гадах да гэтага дома была зроблена прыбудова. *(Іл-я 29. Дом жонкі пана Станіслава Лашча. Іл-я 2015 г. Знесены мясцовай уладай у красавіку 2015 г.)*

88 Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985. С.243.

дні гандаль адбываўся ад прыстані да самай грэблі і мастка праз Вітач.

Насялялі Лоеў купцы, лесапрамыслоўцы, рамеснікі-саматужнікі і іншыя прадпрымальнікі. Сюды сцякаўся навакольны люд у пошуках заробкаў, пагэтаму ў Лоеве было шмат арцельшчыкаў, лесасплаўшчыкаў, грузчыкаў, рамізнікаў.

Упрыгожвалі знешні выгляд Лоева тры ветраныя і два конныя млыны.Калі наступаў вячэрні змрок, па Базарнай вуліцы Лоева штодзень крочыў старэнькі ліхтаршчык з прыстаўной драбінай і бідонам у руках і запальваў падслепаватыя ліхтары.

8 снежня 1926 г. Лоеў набыў статус раённага цэнтра Рэчыцкай акругі ( з 1938 г. - Гомельскай вобласці) БССР. У 1962 г. Лоеўскі раён быў скасаваны, а яго тэрыторыя увайшла ў склад суседняга Рэчыцкага раёна, але ўжо ў 1966 г. Лоеву зноў быў вернуты статус райцэнтра.

## З архітэктурнай спадчыны

Гісторыя любой мясцовасці гэта гісторыя не толькі яе населеных пунктаў, іх вуліц і плошчаў, гэта і гісторыя будынкаў. Самыя старэйшыя і адметныя з іх адносяцца да помнікаў гісторыі і архітэктуры. На жаль, большасць такіх пабудоў на Лоеўшчыне былі драўлянымі і не дайшлі да нас, захавалася толькі некалькі цагляных помнікаў жыллёвага будаўніцтва XIX – пачатку XX ст.

Самым старым і самым адметным будынкам на Лоеўшчыне з'яўляецца палац-сядзіба графіні Бараноўскай у вёсцы Суткоў. Пабудаваны палацава-сядзібны комплекс у пачатку XIX ст. у стылі класіцызму з сіметрычнай планіроўкай на высокім маляўнічым правым беразе Дняпра. Будаўніцтва палаца распачаў у канцы XVIII ст. лоеўскі граф Юзаф Міхайлавіч Юдзіцкі, прадоўжыў яго сын Станіслаў, якому належала Суткоўскае памесце на пачатку XIX ст, і яго зяць Ян Рудзіеўскі.[87] Будаўніцтва яго вялося пад моцным уплывам рускай школы дойлідства. У архітэктуры палаца выкарыстоўваўся дарычны ордэр.

Будынак павернуты на захад парадным фасадам. Ён уяўляе сабой двухпавярховую пабудову з аб'ёмна-прасторавай кампазіцыяй і складанай у плане формай. Цэнтральны корпус пабудаваны ў форме прамавугольніка і злучаны з аднапавярховымі бакавымі флігелямі закрытымі галерэямі. Уваходная частка ў цэнтры галоўнага фасада вылучана класічным дарычным порцікам, увянчаным трохвуголь-

87 Aftanazy R. Dzieje rezydencji na dawnych kresach Rzeczypospolitej. T. 1. Wroclaw,1991. S. 156.





лася за кошт самаабкладання мясцовага насельніцтва. Колькасць вучняў не была пастаяннай. Многія навучэнцы ў зімовы час не маглі наведваць школу з-за адсутнасці абутку і адзення. Не хапала настаўнікаў. У справаздачы Мінскай дырэкцыі па кіраванню народнымі вучылішчамі за 1867 г. адзначалася, што ў Лоеўскім вучылішчы навучалася 57 хлопчыкаў і 11 дзяўчынак, настаўнікам і законанастаўнікам з'яўляўся святар Іван Смоліч.[37]

У гэты перыяд значную ролю ў адукацыі пачынае адыгрываць сялянская школа граматы – прадукт стыхійнага асветніцкага руху. Ён быў выкліканы патрабаваннямі часу, неабходнасцю ўваходу сялянства ў новыя рынкавыя адносіны, якія ўсё больш пранікалі на вёску. Школы граматы з'уляюцца аддзяленнямі народных вучылішчаў, у якіх пісьменныя сяляне навучалі сялянскіх дзетак таму, што ведалі самі. На пачатку 70-х гадоў XIX ст. ўзгадваюцца наступныя аддзяленні Лоеўскага вучылішча: Крупейскае, дзе навучаецца 18 хлопчыкаў і настаўнічае Панцелеймон Хмель, Сінскае – 15 хлопчыкаў навучае Кірыл Карпянок, Каўпенскае – 10 вучняў навучае Мамонт Шумігай і Казярожскае з 10 вучнямі і настаўнікам Міхаілам Плюшчом. Вядома таксама, што ў 1879-1880 навучальным годзе ў Лоеўскім народным вучылішчы займалася 70 хлопчыкаў і 12 дзяўчынак.[38] *(Іл-я 28. Вясковая школа.)*

У апошнія два дзесяцігоддзі XIX ст. адбываецца ўздым адукацыі на Беларусі. Менавіта ў гэты перыяд вельмі хутка павялічваецца колькасць царкоўнапрыходскіх школ. Але агульны ўзровень адукацыі застаецца нізкім. Па дадзеных Усерасійскага перапісу 1897 г. 77% дарослага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю не ўмела чытаць і пісаць, на вёсцы непісьменных было 84%. Пісьменныя мужчыны ў сельскай мясцовасці складалі 34%, жанчыны - 9,6%. Узровень пісьменнасці на Беларусі быў значна ніжэйшы, чым у цэнтральных расійскіх губернях. Адной з прычын гэтага становішча было горшае тут фінансаванне народнай асветы. Так, у 1892 г. выдаткі на 1 жыхара ў цэнтральных губернях Расіі складалі 36,1 капейкі, у Беларусі – толькі 18,5 капеек.[39] У кнізе "Россия", выдадзенай у 1905 г. ў Санкт-Пецярбурзе, даецца наступная характарыстыка адукацыі

37 Там жа. С.45.

38 Долатаў А. Дапаможнік па краязнаўству Лоеўшчыны. Лоеў, 2002. С.72.

39 атусевіч Н. Прававое і матэрыяльнае становішча настаўнікаў пачатковай школы на Беларусі ў другой палове XIX-пачатку XX стст.// Беларускі гістарычны часопіс. № 1. 2001. С. 54.

края: "Высших учебных заведений совершенно нет, средние существуют лишь в крупных городах, и только низшее образование, хоть и нельзя назвать его блестящим, даёт возможность ознакомиться с образовательными средствами края ."[40] У гэты час на ўвесь велізарны Рэчыцкі павет не было ніводнай сярэдняй навучальнай установы, існавалі толькі пачатковыя школы. Яны былі прадстаўлены царкоўна-прыходскімі школамі, школамі граматы і народнымі вучылішчамі, якія падпарадкоўваліся Міністэрству адукацыі.

У 1900-1901 навучальным годзе ў Дзяражыцкім народным вучылішчы навучаліся 34 хлопчыкі і 9 дзяўчынак, у Ручаёўскім вучылішчы з 50 вучняў толькі 7 дзяўчынак, у Лоеўскім мужчынскім вучылі- шчы 80 хлопчыкаў. Са з'яўленнем у 1903 г. земстваў у Беларусі пачалі адкрывацца таксама і земскія школы.

Па стану на 1 студзеня 1908 г. на Лоеўшчыне было 15 пачатковых школ, у якіх навучалася 1150 вучняў і працавала 22 настаўнікі, з іх 4 народных вучылішчы (410 навучэнцаў), 5 царкоўнапрыходскіх школ (403 вучні), 5 земскіх (273 вучні), адна прыватная школа (64 вучні). [41]У сярэднім на кожнага настаўніка прыходзілася больш чым 50 вучняў.

Працавалі наступныя царкоўна-прыходскія школы: Лоеўская жаночая школа (адчынена ў 1899 годзе) з 52 вучнямі і настаўнікам, Крупейская школа з 43 вучнямі і настаўнікам, Грохаўская школа з 56 вучнямі і настаўнікам, Уборкаўская школа з 152 вучнямі і 3 настаўнікамі, Хамінская школа з больш чым 100 вучнямі і 2 настаўнікамі.

Да школ Міністэрства адукацыі адносіліся: Лоеўскае мужчынскае вучылішча з 165 вучнямі і 2 настаўнікамі, Ручаёўскае вучылішча з 103 вучнямі і настаўнікам, Ліпнякоўскае вучылішчы ў складзе 57 вучняў і настаўніка, Дзяражычскае вучылішча з 85 вучнямі і 2 настаўнікамі.

Да школ, якія ўтрымліваліся земствам, адносіліся: Лоеўская жаночая школа з 60 вучнямі і настаўнікам, Алешкаўская школа з 63 вучнямі і настаўнікам, Казіміраўская двухкласная школа з 77 вучнямі і 2 настаўнікамі, Ісакавічская школа з 36 вучнямі і настаўнікам і Рудня-Бурыцкая школа з 37 вучнямі і настаўнікам.

40 Семёнов В. Россия: Полное геаграфическое описание нашего отечества. Т.9. СПб., 1905. С.121.

41 Брагина Н. Становление и развитие образования на Лоевшине с древнейших времён до революции 1917 года.// Гісторыя Лоеўскай зямлі. Факты. Каментарыі. Гомель. 2006.С.77.





было невялікім, але тут працавалі 5 урачоў, 2 фельшары, 6 акушэрак. У бальніцы мелася хірургічнае, гінекалагічнае,інфекцыйнае, тэрапеўтычнае аддзяленні і лабараторыі. Размяшчалася яна паміж сучаснай бальніцай і паліклінікай, на тым месцы, дзе зараз кафэ і крамы райспажыўтаварыства. Існавала прыватная аптэка Шмуйловіча Герша Венцыянавіча, у якой управляючым правізарам працаваў Е.Г. Хейфец.[82]

Дзейнічавала таксама Лоеўскае паштова-тэлеграфнае аддзяленне, якое ўзначальваў тытулярны саветнік Мікалай Васільевіч Жукоўскі. У склад аддзялення ўваходзіла паштова-тэлеграфная кантора, якая размяшчалася ў былым будынку рачнога вакзала, Узначальваў кантору Іван Іванавіч Колінін.[83]

Акрамя гэтага ў Лоеве працавала паштовая станцыя з 5 ямшчыкамі і 5 паштовымі экіпажамі і 12 коньмі, якая, па звестках, размяшчалася на пачатку сучаснай Кастрычніцкай вуліцы, каля яра. Паштовую станцыю ўзначальваў Дзмітрый Карпенка. У цэнтры Лоеве існавала пастаянная паромная пераправа на шастах. Для паскарэння пераправы тут выкарыстоўваліся два паромы.[84]

У 1912 г. ў былым памяшканні валаснога праўлення было адкрыта гарадское мужчынскае чатырохкласнае вучылішча. Гэта вучылішча размяшчалася на Гілевай гары каля Свята-Троіцкага сабора, зараз на гэтым месцы размяшчаецца дзіцячы сад №1. У Лоеве існавалі таксама мужчынскае і жаночае царкоўнапрыходскія двухкласныя вучылішчы. Есць сведчанні, што ў Лоеве таксама працавала школа-хедэр, дзе асобна навучалася яўрэйская дзятва. Размяшчаўся хедэр у канцы сучаснай вуліцы Горкага. Ганаровым сматрыцелем народных вучылішчаў і школ воласці ў гэты час быў калежскі асэсар Аляксандр Сямёнавіч Каморны.[85]

З канфесійных устаноў у Лоеве дзейнічалі праваслаўныя Свата-Троіцкі сабор, святаром у якім на пачатку ХХ стагоддзя служыў спачатку Максім Шалкевіч, затым Канстанцін Сарачынскі, і Свята-Мікольская царква, святаром якой быў Васіль Сулкоўскі.[86] Дзейнічалі таксама каталіцкі касцёл, які з'яўляўся філіялам рэчыцкага касцёла бернардзінцаў, і тры іўдзейскія сінагогі.

У мястэчку дзейнічаў знакаміты ў акрузе базар з двума радамі крам. На пачатку ХХ ст. у Лоеве штогод праводзілася дзесяць кірмашоў: пяць аднадзённых, чатыры двухдзённыя, адзін трохдзённы. Асабліва ажыўлены гандаль у мястэчку быў вясной. У кірмашовыя

82 Там же.С.206.

83 Там же.С. 84.

84 Памяць. Лоеўкі раён. Мн., 2000. С.43

85 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912. С.206.

86 Там же.С.211-212.

Мяшчанская управа кіравала гаспадарчым жыццём Лоева, адказвала за арганізацыю збора дзяржаўных і земскіх падаткаў з мяшчан.

Для кіравання ж воласцю ствараласяЛоеўскае валаснное праўленне. Старшыней валаснога праўлення ў 1912 г. быў Рыгор Краўчанка, пісарам – Антон Качуроўскі. Ёсць падставы меркаваць, што праўленне займалася пытаннямі арганізацыі сельскага самакіравання ў вёсках воласці. Яго галоўнымі абавязкамі з'яўляліся абранне вясковых старастаў, соцкіх і дзесяцкіх, арганізацыя паліцэйскай службы ў весках, кантроль за выкананнем ўсіх распараджэнняў урадавых чыноўнікаў і паліцыі, раскладка і збор падаткаў, кантроль за выкананнем сялянамі шматлікіх дзяржаўных павіннасцей, рэгуляванне пазямельных адносін сялян. На ўтрыманне органаў валаснога і сельскага кіраваннння з сялян збіраўся спецыяльны падатак. Лоеўская воласць тады ўваходзіла ў склад Брагінскага падатковага ўчастка. [77]

У склад Лоеўскай воласці уваходзіў Лоеў і сялянскія абшчыны вёсак Мохаў, Казярогі, Каўпень, Крупейкі, Шчытцы, Сінск, а таксама хутары Астравы, Малая Дубраўка і Галы-1.[78] Па звестках Лоеўскага валаснога зямельнага аддзела на тэрыторыі воласці пражывала 11,5 тыс. чалавек, з якіх 9 тыс. чалавек (78%) з'яўляліся земляробамі і 2470 чалавек (22%) – адносіліся да іншых катэгорый насельніцтва. У гэты час у Лоеўскай воласці налічвалася 15 680 дзесяцін зямлі, з іх 12 552 дзесяціны (80,6%) належала сялянам, 3068 дзесяцін (19%) – памешчыкам і 60 дзесяцін (0,4%) - царквам. Усёй ворыўнай зямлі ў воласці было 10 174 дзесяціны ( 85%).[79] Жыхары Лоева карысталіся 3 127 дзесяцінамі зямлі. У сярэднім на адзін двор у Лоеве прыходзілася прыкладна 3 дзесяціны зямлі, вёскі Крупейкі – 11,5 дзес., Каўпені –16 дзес., Сінск –8 дзес., хутары Галы-1 – 21 дзес., Астравы – 17 дзес., Малая Дубраўка – 15 дзес. [80]

У Лоеве размяшчалася ўезнае паліцэйскае ўпраўленне 5-га стана, у якім служылі ў 1912 г. паліцэйскі-надзірацель Іван Мікалаевіч Багаткевіч і паліцэйскі Афанасій Іванавіч Красоўскі. Натарыусам натарыяльнай канторы ў Лоеве працаваў Андрэй Макаравіч Жучкевіч. [81]

З медычных устаноў у мястэчку існавала земская бальніца. Вядома, што земскім урачом Лоеўскай земскай бальніцы ў 1912 г. быў Ян Людвігавіч Драбінскі, а з 1 жніўня 1913 г. – Яўген Уладзіміравіч Клумаў. Ёсць сведчанне, што памяшканне тагачаснай бальніцы

77 Там же.С. 28.

78 Новікава Г. Населеныя пункты Лоеўскага раёна.// Гісторыя. Праблемы выкладання. №1. 2001. С. 104-112. № 2. 2001.С. 103-110.

79 Дзяржаўны Архіў Гомельскай вобласці (далей ДАГВ). Ф. 135.Воп.1. Спр. 3. Арк. 2 зв.

80 ДАГВ. Ф. 135.Воп.1. Спр. 40. Арк. 7 зв.

81 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912. С.31.




У вёсцы Суткоў працавала прыватная школа, якая ўтрымлівалася графіняй Бараноўскай К.В. Яе наведвалі 64 вучні і працавалі 2 настаўнікі.

У Лоеве існавалі мужчынскае і жаночае двухкласныя народныя вучылішчы, а ў вёсках усе школы былі змешанага тыпу.
У 1912 г. было створана вышэйшае Лоеўскае 4 класнае пачатковае вучылішча Міністэрства адукацыі. Яго выпускнікі атрымалі права паступлення ў адпаведныя класы сярэдняй школы. Царкоўна-прыходскія школы ў сельскай мясцовасці паступова замяняліся народнымі вучылішчамі, якія забяспечвалі больш высокі ўзровень ведаў вучняў.

Перад першай сусветнай вайной народныя вучылішчы былі адкрыты ў Бывальках, Баршчоўцы, Глушцэ, Казярогах, Каўпені, Мохаве, Сяўках, Хатках, Чапліне і некаторых іншых вёсках. Ёсць сведчанні, што акрамя гэтых школ у Лоеве існавалі і тры школы-хедэры для яўрэйскай моладзі. Адна з гэтых школ разяшчалася ў канцы Троіцкага завулка (зараз вуліца Горкага), блізка каля Троіцкіх могілкаў.

Пачатковыя школы былі аднакласныя, двух, трох і чатырохкласныя, бо на той час не існавала уніфікаванай сістэмы пачатковай адукацыі. У розных тыпах школ працяглась навучальнага года была неаднолькавая і складала ў сярэднім 126 дзён. Навучанне было платным, таму далёка не ўсе мелі магчымасць атрымаць нават пачатковую адукацыю. У сувязі са спецыфікай сялянскай працы вучоба сялянскіх дзяцей насіла сезонны характар: пачыналася позняй восенню, а заканчвалася ў красавіку. Да таго ж школы часта павінны былі па розных прычынах перарываць заняткі з-за адсутнасці паліва ў зімовы перыяд, або памяшкання. Звычайна школы размяшчаліся ў наёмных сялянскіх хатах, многія з іх былі перасовачнымі. Вучні разам з настаўнікам качавалі кожныя 5-7 дзён з адной хаты ў другую.

Характэрнай з'явай у школьным жыцці быў вялікі адсеў вучняў. Толькі 8-9 працэнтаў ад агульнай колькасці вучняў звычайна заканчвалі школу, астатнія выбывалі. Са справаздач Лоеўскай аднакласнай царкоўнай жаночай школы відаць, што ў 1913 г. з 65 вучаніц гэтай школы скончыла школу толькі 6, у 1914 г. з 63 вучаніц – таксама 6, а ў 1915 г. з 66 вучаніц закончылі школу 7 вучаніц.[42]

42 Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, ф.295, воп.1, спр.9045, л.3-4.

Увесь навучальны і выхаваўчы працэс у школах будаваўся ў духу афіцыйнай дзяржаўнай ідэалогіі, так называемай трыяды: "самадзяржаў'е, праваслаў'е і народнасць". У вучэбных планах многа часу адводзілася на вывучэнне закону Божага і царкоўнаславянскага чытання. Для чытання шырока выкарыстоўваліся Евангелле, Псалтыр, Малітваслоў, Свяшчэнная гісторыя Старога і Новага Запавету, Начаткі хрысціянскага вучэння. У школах вывучаліся таксама арыфметыка, гісторыя, геаграфія.

Зараз ёсць падставы меркаваць, што асобныя вучні, якія заканчвалі пачатковыя народныя вучылішчы Лоеўшчыны, атрымлівалі добрую адукацыю, якая дазваляла ім паспяхова працягваць вучобу далей. Так, выхадзец з сялянскай сям'і вёскі Сяўкі прафесар Яўсей Сцяпанавіч Канчар, адзін з арганізатараў 1-га Ўсебеларускага кангрэса, у 90-х гадах XIX ст., пасля заканчэння Дзяражычскага народнага вучылішча, вучыўся ў Мар'інагорскаім земляробчым вучылішчы, а затым атрымаў вышэйшую адукацыю ў Санкт-Пецярбурзе. Вядома таксама, што селянін вёскі Казіміраўка Чысцік А.А.спачатку закончыў Казіміраўскае народнае вучылішча, а ў 1905 гг. быў слухачом Маскоўскага універсітэта.[43] На працягу 1871-1914 гг. на медычным факультэце Бернскага універсітэта ў Швейцарыі навучаліся ў ліку іншых выхадцаў з Беларусі і студэнткі, ураджэнцы Лоева.[44] На жаль, прозвішчы гэтых студэнтак нам невядомы.

Адным з вострых пытанняў развіцця народнай асветы таго часу была праблема настаўніцкіх кадраў. Дастаткова назваць дадзеныя перапісу 1911 г. ў віленскай навучальнай акрузе, па якіх настаўнікаў з сярэдняй педагагічнай адукацыяй налічвалася 16,1%, з сярэдняй рэлігійнай – 17,5%, з сярэдняй свецкай – 14,1%, з дамашняй і ніжэйшай адукацыяй – 52,3%. Такім чынам, большасць настаўнікаў мела хатнюю і ніжэйшую (пачатковую) адукацыю, а настаўнікаў з вышэйшай адукацыяй наогул не было.

Становішча настаўнікаў было нялёгкае. Да настаўнікаў прад'яўляліся даволі жорсткія патрабаванні, асабліва што тычылася іх маральных якасцей і палітычных поглядаў. Праца настаўнікаў знаходзілася пад пільным наглядам з боку інспектараў школ, дырэкцыі народных вучылішчаў, епархальнага ведамства і чыноўнікаў

43 Долатаў А. Дапаможнік па краязнаўству Лоеўшчыны. Лоеў, 2002. С.72.

44 Банькоўскі -Цюліг М. Студэнты і студэнткі з Беларусі ў Швейцарскіх універсітэтах (XVI - пачатак XX стст.). // Беларускі гістарычны часопіс. № 4. 1995. С. 55.





Пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай у 1793 г. Лоеў з ваколіцамі ўвайшоў у склад Расійскай імперыі і захаваў статус валаснога цэнтра, але страціў значную частку сваёй былой тэрыторыі. Тады ў межах сучаснага Лоеўскага раёна былі ўтвораны Лоеўская, Дзяражычская і Ручаеўская валасці, якія адносіліся да Рэчыцкага павета Мінскай губерні. Да таго ж, вёскі Пярэдзелка, Суткоў, Казіміраўка, Ісакавічы, Страдубка, Чаплін, Бушацін, Ліпнякі, Уборкі, Ястрабка, Міхалёўка,Удалёўка, Хаткі і Рудня Бурыцкая адышлі ў склад Холмецкай валасці Рэчыцкага павета, а вёскі ў міжрэччы Сожа і Дняпра знаходзіліся ў складзе Дзятлавіцкай і Чабатовіцкай валасцей Гомельскага павета Магілеўскай губерні.[73]

Як і кім кіравалася Лоеўская валасць ? Якія ўстановы тут існавалі ? Якімі былі яе межы і заняткі яе жыхароў ?

Можна меркаваць, што да адмены прыгоннага права 19 лютага 1861 г. Лоевам кіравала вотчынная адміністрацыя Юдзіцкіх, бо мястэчка з'яўлялася іх прыватным уладаннем. Юдзіцкія і іх эканомы ўладкоўвалі местачковае жыццё, мелі прывілеі на правядзенне кірмашоў у Лоеве, збіралі падаткі з вольных мяшчан і прыгонных сялян. Пасля адмены прыгоннага права ў мястэчку былі створаны органы мясцовага кіравання.

Гістарыяныя дакументы сведчаць, што ў 1897 г. у.Лоеве пражывала 4667 жыхароў, існаваў 251 двор, 9 млыноў, 24 крамы і гандлёвыя канторы.[74]

Аб сістэме кіравання ў Лоеўскай валасці на пачатку XX ст. ёсць звесткі ў архівах і гістарычнай літаратуры.

Прадстаўніком губернскіх органаў кіравання ў валасці на пачатку XX ст. быў участковы земскі начальнік, кватэра якога размяшчалася ў Лоеве. У яго падпарадкаванні знаходзіліся Дзяражычская, Лоеўская, Ручаеўская і Холмецкая валасці."[75] Участковы земскі начальнік ажыццяўляў кантроль за дзейнасцю мясцовых валасных і местэчковых органаў кіравання і валодаў усёй паўнатой адміністрацыйнай і судовай улады над жыхарамі валасці. Прызначаўся земскі начальнік з ліку мясцовага павятовага дваранства.

Галоўным органам кіравання ў мястэчку была мяшчанская ўправа. Як яна стваралася і дзе размяшчалася яе памяшканне, нам пакуль невядома. Вядома толькі, што на пачатку XX ст. кіраўніком управы, або старостам-старшынёй, быў спачатку Нота Шмуйловіч, а затым Яфім Барысавіч Загрэцкі.[76]

73 Новікава Г. Населеныя пункты Лоеўскага раёна.// Гісторыя. Праблемы выкладання. №1. 2001. С. 104-112. № 2. 2001.С. 103-110.

74 Семёнов В. Россия: Полное геграфическое описание нашего отечества. Т.9. СПб., 1905. С.571.

75 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Справочные и административные сведения. Мн., 1912.С.209.

76 Там же. С. 210.

сялян фальварка Бывалькі-Мікалаеўка ? З гістарычных крыніц вядома, што яшчэ ў 1832 г. гэты фальварак быў закладзены Юдзіцкімі за даўгі ў Мінскім губернскім упраўленні. У чэрвені 1848 г. фальварак Бывалькі-Мікалаеўка (2952 гектары зямлі з прыгоннымі сялянамі) выкупіла з публічных таргоў за 37 500 рублёў серабром княгіня Юлія Мікалаеўна Любавіцкая (народжаная Радзівіл).[70]

19 лютага 1861 г. Маніфестам імператара Расійскай імперыі Аляксандра ІІ прыгоннае права было адменена, сяляне атрымалі магчымасць выкупіць сваю надзельную зямлю у памешчыкаў і атрымаць асабістую свабоду. 20 жніўня 1864 г. 85 сялянскіх двароў вёскі Бывалькі атрымалі згодна выкупнога акта 2257 гектараў зямлі, з іх 1370 гектараў ворыва. Але за гэту землю сяляне павінны былі ўнесці выкупную суму раўную 11494 рублі, з разліку, што штогод выкупныя плацяжы павінны складаць 689 рублёў 64 капейкі.[71]

Само ж памесце Бывалькі, якое налічвала 968 гектараў зямлі, 2 возеры, карчму і конны млын, пасля смерці княгіні Ю.М.Любавіцкай у 1872 г. перайшло ва ўладанне Рэчыцкай дваранскай апекі і арэндавалася сялянскай абшчынай вёскі Бывалькі за 200 рублёў у год. Гэта памесце неаднаразова выстаўлялася на аўкцыённы продаж, але толькі ў 1893 г. па спецыяльнаму ўказу імператара Аляксандра ІІІ было прададзена сялянскай абшчыне вёскі Бывалькі за 8000 рублёў, з умовай выплаты спачатку 2000 рублёў, а затым на працягу 4-х гадоў – па 1500 рублёў.[72]

## Установы Лоеўскай воласці на пачатку ХХ стагоддзя

Лоеў з часу першага летапіснага ўпамінання ў 1505 г. і на працягу сваей 500-гадовай гісторыі некалькі разоў вымушаны быў мяняць свой адміністрацыйны статус. Вядома, што на працягу XVI -XVIII стст. мястэчка Лоеў было цэнтрам воласці Любечскага павета спачатку ў складзе ВКЛ, а з 1569 г. – Кароны Польскай Рэчы Паспалітай. У 1585 г. Лоеў стаў цэнтрам староства, а ў 1646 г. быў уключаны ў склад Старадубскага павета Смаленскага ваяводства ВКЛ. Падчас вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654-1667 гг. Лоеў быў прыпісаны да Чарнігаўскага палка – адміністрацыйнай адзінкі на Левабярэжнай Украіне, якая мела аўтаномію ў складзе Расійскай дзяржавы. А ўжо па Андрусаўскаму міру 1667 г. Лоеўскае староства ўвайшло ў склад Рэчыцкага павета Мінскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага.

70 Памяць. Лоеўскі раён. Мн., 2000. С.581.

71 Там жа.

72 Там жа.





Міністэрства ўнутраных спраў.

Цяжкім было і матэрыяльнае становішча настаўнікаў і іх сем'яў. Сярэдні заробак настаўніка ў канцы ХІХ ст. складаў 16-20 рублёў у месяц, зыходзячы з разліку 16 капеек за гадзіну працы, пры працы па 4 гадзіны ў дзень.Памочнік настаўніка атрымліваў 150 рублёў у год. Такія заробкі былі ніжэй узроўню мінімальнага пражытачнага бюджэту.[45]

Але нягледзячы на ўсе цяжкасці і складанасці настаўніцкай працы, на адсутнасць належнай матэрыяльна-тэхнічнай базы, перапоўненасць школ, вялізную вучэбную нагрузку і малыя заробкі, сярод настаўнікаў таго часу было шмат энтузіястаў сваёй справы, сапраўдных педагогаў і выхавацеляў. Гісторыя захавала і данесла да нас імёны некаторых настаўнікаў, якія перад першай сусветнай вайной працавалі ў сістэме народнай адукацыі Лоеўшчыны, неслі асвету нашым землякам.

У 1913 г. ў Лоеўскім чатырохкласным гарадскім вучылішчы працавалі інспектар народных станаў Міхаіл Паўлавіч Стэльмаховіч, законавучыцель-свяшчэннік Канстанцін Сарачынскі, ганаровы сматрыцель, калежскі асэсар Аляксандр Сямёнавіч Каморны, настаўнікі Пампей Рыгоравіч Антоненка, Лаўрэнцій Аляксандравіч Якімовіч, Кацярына Міхайлаўна Лапшова, Цімафей Емеліслаўлевіч Захарэўскі.

У Лоеўскім мужчынскім вучылішчы у розныя часы працавалі Дзмітрый і Кацярына Марозавы, Вольга Емельяновіч, Анастасій Дзмітрыевіч Карповіч і Антон Лявонцьевіч Ханько. Доўгі час памочнікам настаўніка тут працаваў выпускнік Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі Пятро Міхайлоўскі, а законавучыцелем – святар Максім Шалкевіч, выхаванец Мінскай духоўнай семінарыі. Вольга Гарбацэвіч працавала ў Лоеўскім жаночым вучылішчы, яна ж пэўны час працавала ў Дзяражычскім народным вучылішчы, дзе настаўнічалі таксама Вольга Хадоркіна і законанастаўнік-святар Платон Зелецінкевіч, выпускнік Мінскай духоўнай семінарыі . Казіміраўскае народнае вучылішча ўзначальваў Раман Пятровіч, настаўнікам працавала Вера Драздоўская, а яе муж свяшчэннік Міхаіл Драздоўскі – законанастаўнікам. Уборкаўскую царкоўна-прыходскую двухкласную

45 Матусевіч Н. Прававое і матэрыяльнае становішча настаўнікаў пачатковай школы на Беларусі ў другой палове ХІХ-пачатку ХХ стст.// Беларускі гістарычны часопіс. № 1. 2001. С. 54.

школу ўзначальваў законанастаўнік і святар Аляксей Меліёраў, старэйшым настаўнікам працаваў Іван Іванавіч Малішэўскі, а памочнікамі настаўніка – Андрэй Навіцкі і Іван Тарасевіч. У Ручаёўскім вучылішчы працавалі Васіль Сцяпанавіч Белабровік, які скончыў Нясвіжскую настаўніцкую семінарыю, Васіль Яцэнка і Данііл Магілевец , святар Міхаіл Казлоўскі, які скончыў Мінскую духоўную семінарыю. У Суткоўскай школе працавалі Антаніна Нікольская і Зінаіда Жукава. Вядома таксама, што Глушэцкую школу ўзначальвала Марыя Казюліч, Ісакавічскую – Алена Рыдзеўская, Буда-Петрыцкую – Алена Літвінава і Вольга Шацукевіч, Бывалькаўскую – Ксенія Злотнікава, Карпаўскую – Аляксандра Плышэўская, Ліпнякоўскую – Мікалай Трыфанавіч Лясун і Павел Чайкоўскі, Рудня-Бурыцкую – Марыя Марозава. У Каўпенскай школе настаўнічаў Малюта Шумічаў, у Крупейскай – Максім Ерафееў, у Сяўкоўскай – Сафія Іалоб, а ў Хамінкаўскай – Вера Ляплянская.[46]

Пуцявіны жыцця настаўнікаў Лоеўшчыны губляюцца ў вірлівым ліхалецці першай сусветнай вайны і расійскіх рэвалюцый 1917 г. Якім быў іх далейшы лёс, нам невядома.

## Шляхі зносін на Лоеўшчыне ў сярэдзіне XIX стагоддзя

Вялікі ўплыў на развіцце той або іншай мясцовасці звычайна аказваюць геаграфічнае становішча і шляхі зносін, якія праходзяць праз гэту мясцовасць. Не з'яўляецца выключэннем з гэтага і Лоеўшчына. Так, узнікненне ў XI ст. старажытнага паселішча Лоева гара звязана з існаваннем дняпроўскага воднага шляху " з вараг у грэкі" і абумоўленага ім актыўнага гаспадарчага жыцця на берагах Дняпра.

Доўгі час на Беларусі існавала толькі два віды транспарту: гужавы і рачны. Толькі з другой паловы XIX ст. з будаўніцтвам першых чыгунак на Беларусі надышла эра чыгуначнага транспарту, а роля гужавога і рачнога транспарту паступова пачала змяншацца.

Якім жа быў стан шляхоў зносін на Лоеўшчыне ў сярэдзіне XIX ст., калі гужавы і рачны транспарт яшчэ панавалі? Якія грузы тады перавозіліся? Пошукі і даследванні ў гэтым накірунку розных гіста-

46 Памятная книжка Минской губернии на 1913 год. Мн., 1912.С.205-214.




века/дні, жанчыны – 16192 чалавека/дзён, або 308 чалавека\дзён на тыдзень. На кожную рабочую душу прызначалася 2 дні паншчыны на тыдзень. У сярэднім на сялянскую гаспадарку прыходзілася 3 дні мужчынскай і 4 жаночай паншчыны. Але асобныя сем'і выконвалі большую паншчыну, у прыватнасці сям'я Якава Пракопавіча Андрыянца з Бывалек, якая налічвала 12 чалавек і валодала 53 гектарамі зямлі выконвала 16 дзённую паншчыну на тыдзень (6 мужчынскіх і 10 жаночых дзён).

У якасці даніны сяляне вымушаны былі бясплатна аддаваць пану за карыстанне надзелам зямлі пэўную колькасць жыта, ячменю, аўсу, сухіх грыбоў, яек, гусей, курэй і сена, або іх грашовы эквівалент. На сялянскую гаспадарку прыходзілася ў год у якасці даніны ад 12,5 да 75 пудоў жыта, ад 2 да 7 пудоў і ячменю, і аўсу, ад 2 да 7 кілаграм сухіх грыбоў, ад 5 да 10 яек, ад 3 да 10 гусей, ад паловы курыцы да 10 курэй, ад 4 да 54 пудоў сена.

Безумоўна, значным цяжарам на гаспадаркі прыгонных сялян клаліся грашовыя падаткі і павіннасці на карысць дзяржавы. Умоўна іх можна падзяліць на дзяржаўныя падаткі, земскія і мірскія зборы,[67] але інвентар нічога нам не паведамляе аб памерах дзяржаўных павіннасцяў.

Зараз ёсць падставы меркаваць, што ў вёсцы Бывалькі ў сярэдзіне XIX ст. жылі не толькі прыгонныя сяляне, але і вольныя людзі. Аб гэтым сведчыць той факт, што ў 1858 г. жыхар гэтай вёскі Іван Антонавіч Самуйленка ахвяраваў на перабудову Свята -Троіцкай царквы ў вёсцы Дзяражычы 1254 рублі ўласных грошай.[68] На той час гэта былі вялікія грошы. Дастаткова сказаць, што гэтая сума прыкладна раўнялася выручцы атрыманай ад продажу тавараў на лоеўскім дзесятым кірмашу ў 1861 г.[69] У інвентарным спісе прыгонных сялян фальварка Бывалькі гаспадаркі селяніна Івана Самуйленкі няма, таму ёсць падставы меркаваць, што гэты гаспадар быў або вольным селянінам, або старастам сялянскай абшчыны вёскі Бывалькі, які, магчыма, выкупіўся з прыгоннай залежнасці ад князёў Юдзіцкіх у адпаведнасці з царскім указам ад 20 лютага 1803 г. Па гэтаму указу памешчыкам дазвалялася вызваляць прыгонных паасобку ці сёламі з абавязковым надзяленнем іх зямлёй за выкуп па ўзаемнай дамоўленасці з памешчыкам. Але колькі ж было ў тыя часы вольных людзей у вёсцы Бывалькі зараз сказаць нельга, бо на гэты конт няма гістарычных звестак.

Зараз узнікае пытанне, якім жа быў далейшы лёс прыгонных

67 Гісторыя сялянства Беларусі. Т.1. Мн., 1994. С.307.

68 Новікава Галіна. Населеныя пункты Лоеўскага раёна// Гісторыя. Праблемы выкладання. 2001. №.1. С.107

69 Белоруссия в эпоху капитализма: Сборник документов и материалов. Т.2. Мн., 1990. С. 152.

мелі цяглай жывёлы, або валодалі толькі паўвалочным надзелам з адным валом або каровай у гаспадарцы.

Агароднікамі лічылі “ тых сялян, якім перадаецца ад уладальнікаў толькі сядзіба ці дом з агародам з часткай сенакоснай зямлі, калі сяляне гэтага разраду трымаюць жывёлу”.[64] Агароднікаў на вёсцы Бывалькі налічвалася 7(8%) гаспадарак, у вёсцы Цясны не пазначана ні адной. Агароднікі валодалі надзелам зямлі ў 1-2 гектары пад агародамі і 3-7 гектараў пад сенажацямі і не мелі сваёй рабочай жывёлы.

Бабылямі, ці кутнікамі, лічылі сялян або беззямельных, або бездомных, “ гэта значыць, якія не атрымалі ад уладальнікаў ані сядзібы, ані зямлі”.[65] Такіх у вёсцы Бывалькі налічваліся 2 (2,4%) сялянскія сем’і, у вёсцы ж Цясны 7 (17%) сялянскіх сямей нічым не валодалі. Напрыклад, згадваемы ў інвентарных запісах селянін з Бывалек Якаў Пятровіч Савянок жыў адзін і нічога , акрамя хаты, не меў.

Што датычыць сялянскіх надзелаў, то звычайна сялянскі надзел па інвентару падзяляўся на тры часткі: агарод, сенажаць і ворыва. Усяго у вёсцы Бывалькі на гэты час налічвалася 1911 гектараў сялянскай надзельнай зямлі, у вёсцы Цясны – 775 гектараў. Пад ворывам у вёсцы Бывалькі было занята 1336 гектараў, у вёсцы Цясны –545 гектараў, пад сенажацямі адпаведна 476 і 193, пад агародамі – 94 і 37 гектараў. У вёсцы Бывалькі на адну сялянскую гаспадарку ў сярэднім прыходзілася 23 гектары, у вёсцы Цясны – 19 гектараў зямлі. Гэты паказчык быў вышэй, чым сярэдні надзел у Мінскай губерні.[66]

Пад агародамі ў большасці сялянскіх гаспадарак мелася адзін, рэдка два гектары і толькі гаспадарка Лук’яна Сямёнавіча Сінілы з Бывалек мела тры гектары зямлі.

Пад сенажацямі сяляне фальварка Бывалькі мелі ад 3 да 6,5 гектараў, але асобныя гаспадаркі мелі і больш: 10, 13, 16 гектараў.

Пад ворывам у паўцяглых гаспадарках было ад 9,6 да 29 гектараў, як у Міхаіла Рыгоравіча Стасько з Цясноў, цяглых – ад 10 да 39 гектараў зямлі, як у Міхаіла Фаміча і Якава Пракопавіча Андрыяўцоў і ўсё таго ж Лук’яна Сямёнавіча Сінілы з Бывалек.

Пэўныя звесткі аб павіннасцях сялян фальварка на карысць князёў Юдзіцкіх дае зводная ведамасць па вёсцы Бывалькі за 1846 год. Яна сведчыць, што сяляне выконвалі змешаную рэнту: паншчыну (праца на панскай гаспадарцы) і даніну прадуктамі, створанымі ў сялянскай гаспадарцы. Усяго за год мужчыны адпрацавалі на пана 13208 чалавека/дзён, што ў сярэднім на тыдзень складае 254 чала-

64 НА РБ, ф.1628, воп. 1, спр.1182, а. 7

65 Там жа, а.8.

66 Доўнар-Запольскі М. Гісторыя Беларусі.Мн.,1994. С.338.





рычных крыніц дазволілі знайсці цікавыя звесткі і зрабіць пэўныя высновы.

Гужавы транспарт у тыя часы займаў пануючае становішча па аб’емах перавозак. Праз Лоеў праходзіла паштовая дарога, аднесеная да першага разраду, якая вяла з Мінска праз Рагачоў, Рэчыцу, Лоеў ў Чарнігаў. Ад Рагачова дарога ішла на Якімаўскую слабаду, а ад яе, за выключэннем першых 37 км, па ўзвышанаму праваму грабеню даліны Дняпра, перасечанаму значнай колькасцю яроў. Даўжыня дарогі ад Рагачова да Чарнігава складала 131 кіламетр, на ей было 8 мастоў і 26 грэбляў.[47] Дарога тут праходзіла праз вялікую колькасць весак, жыхары якіх зімой займаліся мясцовымі промысламі, вясной жа часта накіроўваліся на лесасплаўныя работы або заставаліся на гаспадарцы.

На гэтым шляху для паштовых і пасажырскіх перавозак на Лоеўшчыне ў 1857 годзе існавала дзве паштовыя станцыі: у Ісакавічах, з 6 ямшчыкамі і 18 коньмі,[48] і ў Лоеве , дзе было 5 ямшчыкоў, 5 паштовых экіпажаў і 12 коней.[49] У Лоеве дарога перасякалася Дняпром, за якім ужо распасціралася Чарнігаўская губерня. Тут існавала пастаянная паромная пераправа на шастах, якую забяспечвалі два паромы.

У час разліваў Дняпра паромная пераправа ажыццяўлялася вельмі марудна, таму што патрабавала шмат сілы і спрыту, каб справіцца з хуткай плынню каля правага берага. Вядома, што ў Лоеве для пераправы з левага берага на правы патрабавалася да 3 гадзін часу, а з правага на левы пераправа ажыццяўлялася хутчэй, таму што прыстань левага берага звычайна знаходзілася ніжэй па цячэнню, каля вескі Каменка. Для паскарэння пераправы тут выкарыстоўваліся два паромы.

Другая пастаянная паромная пераправа знаходзілася ніжэй па Дняпру каля вескі Глушэц, па дарозе з Мазыра на Чарнігаў.[50]

Часовая ж паромная пераправа знаходзілася ў 5 кіламетрах вышэй Лоева на так называемым "маскоўском извозе", шляху, які веў праз веску Абакумы, у той час Магілеўскай губерні, на Гомель і далей у бок Масквы.

47 Зелинский И. Материалы для географии и ботанистики России. Минская губерния. Часть 1. СПб., 1864. С.297.

48 Там же. С. 288

49 Памяць. Лоеўскі раён: Гісторыка-дакументальная хроніка. Мн., 2000. С.43.

50 Зелинский И. Материалы для географии и ботанистики России. Минская губерния. Часть 1. СПб., 1864. С. 289.

У часы вясенніх разводдзяў зносіны паміж правым і левым берагамі Дняпра наладжваліся толькі ў Лоеве і ў весцы Глушэц, а ў іншых месцах пераправы былі практычна немагчымымі.

Да 1850 г. паміж Лоевам і Рэчыцай была пабудавана яшчэ адна добраўпарадкаваная дарога, якую лаяўчане называлі "Гальскі шлях".[51] Пачыналася яна з паўночнай ускраіны Лоева і ішла паўз яўрэйскія могілкі на в. Казярогі – урочышча Галы – в. Бушацін і далей на Рэчыцу і Мінск.

Ад Лоева паралельна Дняпру да Брагіна, а адтуль праз пераправу на Чарнобыль вяла дарога, аднесеная да другой катэгорыі. Лаяўцы называлі яе "Гутніцкі шлях", таму што за Крупейкамі праходзіла яна паўз шкляную гуту. Мела яна працягласць 114 кіламетраў, 2 масты і 39 грэбляў.[52]

Што датычыць рачнога транспарту, то патрэбна заўважыць, што ў тыя часы ўжо з' явіліся першыя параходы, якія насілі назвы "Опыт" і "Польза" і належалі кампаніі Верхнядзвінскага параходства гвардыі палкоўніка Нарышкіна і княгіні Юсупавай. Адзін параход пад назвай "Іаан" належаў памешчыку Мальцову. Усе параходы былі металічныя, пласкадонныя, мелі рухавік магутнасцю 60 конскіх сіл і служылі для буксіроўкі суднаў рухаючыхся ўверх па рацэ. Першыя два былі пабудаваны ў 1856 годзе ў Бельгіі, а "Іаан" быў пабудаваны на суднаверфі Мальцова ў Жыздрынскім уездзе Калужскай губерні.

Гэтыя параходы з поўным грузам дзеннага запасу дроў мелі асадку ў вадзе 53 см, без дроў – 35 см.

Звычайна параходы з шасцю суднамі на буксіры рабілі рэйсы з Крамянчуга да Магілева ў 2, 3 і нават 5 тыдняў, што залежала ад стану вады і пары года. За буксіраванне судна ўладальнік парахода атрымліваў 400-600 рублеў серабром, у залежнасці ад велічыні судна і груза, што па тым часе было вялікімі грашыма.[53]

На Дняпры таксама выкарыстоўваліся пласкадонныя судны розных тыпаў і грузападымальнасці: бярліны, баркі, шляры, платы, дубы і іншыя. Бярліны прыйшлі на змену байдакам, якія выкарыстоўваліся раней на Дняпры для сплаўнага і ўзводнага суднаходства.

Бярліны былі рускай і немецкай канструкцыі. Бярліны рускай канструкцыі мелі даўжыню 33-42 метры, шырыню ад 2,5 да 2,7,

51 Каганович А. Речица. История еврейского местечка Юго-Восточной Белоруссии. Иерусалим, 2007. С.122.

52 Зелинский И. Материалы для географии и ботанистики России. Минская губерния. Часть 1. СПб., 1864. С.298.

53 Там же. С.132.





гектараў, як гаспадарка Лук'яна Сямёнавіча Сінілы з вёскі Бывалькі, і ад 14 да 51 гектараў, як у гаспадарцы Марка Кома з вёскі Цясны. Цяглых у вёсцы Бывалькі налічвалася 50 (59%) гаспадарак, у вёсцы Цясны - 23 (56%) гаспадаркі. Усе сялянскія гаспадаркі аднесеныя да гэтага разраду мелі цяглую жывёлу. Асноўнай цяглавай сілай былі валы, якіх на кожную гаспадарку прыходзілася ад 2 да 6, як у Рамана Лук'янавіча Сінілы і Фёдара Дзем'янавіча Фядосенкі з Бывалек, Рыгора Савіча Таўкача з Цясноў.

Калі ў вёсцы Бывалькі налічвалася 126 валоў, то коней было па інвентарных звестках толькі 6, прычым толькі ў адной гаспадарцы Івана Антонавіча Сінілы налічвалася 2 кані. Вядома, што два кані маглі за дзень узараць адзін гектар,[62] а два валы - толькі трэць гектара.[63] Але валы мелі свае перавагі, іх утрыманне абыходзілася для сялянскай гаспадаркі больш танна, яны былі больш вынослівыя.

Большасць цяглых сялянскіх гаспадарак мела 2-3 каровы, але асобныя гаспадаркі мелі і больш. Найбольшую колькасць – 8 кароў – мела гаспадарка Сідара Майсеевіча Бракара з Цясноў.
Акрамя кароў даглядалі і дробную жывёлу. У вёсцы Бывалькі 31 гаспадарка мела коз ад 2 да 5 на двор, 30 гаспадарак – авечак, з іх пераважная большасць ад 2 да 6 галоў, 28 гаспадарак – свіней ад 1 да 3 галоў, толькі гаспадарка Прохара Дзямідавіча Сінілы мела 4 галавы свіней. З авечак сяляне атрымлівалі воўну і аўчыну, якія ішлі на выраб адзення і абутку, свініна ж у большасці выпадкаў прызначалася для харчавання саміх сялян, але магла і прадавацца.

Акрамя свойскай жывёлы сяляне разводзілі свойскую птушку: курэй, качак, гусей, але найбольшае распаўсюджванне мелі гусі і куры.

Асобныя сялянскія сем'і мелі вуллі з пчоламі. У вёсцы Бывалькі і Цясны мелася па 5 сямей, якія трымалі пчол, прычым, большасць мела 1-3 вуллі і толькі сем'і Рамана Лук'янавіча Сінілы з Бывалек, Паўла Восіпавіча Рубана і Рыгора Савіча Таўкача з Цясноў мелі адпаведна 8, 17 і 29 вулляў пчол.

Да другога разраду сялян па інвентару фальварка Бывалькі адносіліся паўцяглыя сяляне. У вёсцы Бывалькі налічвалася 26 (31%) сялянскіх гаспадарак, аднесеных да паўцяглых, у вёсцы Цясны – 9(22%). Большасць паўцяглых гаспадарак мела надзелы зямлі ў 14-15 гектараў, але асобныя з іх, такія, як Ігнат Клімавіч Паўлюшчанка з Бывалек і Міхаіл Рыгоравіч Стасько з Цясноў, мелі па 40 гектараў зямлі, але не мелі цяглай жывёлы. Звычайна ж паўцяглыя сялянскія гаспадаркі мелі або валочныя надзелы, але па нейкай прычыне не

62 Дембовецкий А. Опыт описания Могилевской губернии. Ч.2. Могилёв, 1884. С.878.

63 Бобровский П. Гродненская губерния. Ч.2. С. 126.

## Сяляне фальварка Бывалькі ў сярэдзіне XIX стагоддзя

Якім было жыццё нашых продкаў на Лоеўшчыне ў далёкім мінулым ? Напэўна на гэтае пытанне многія дадуць наступны адказ: “Жыццё нашых продкаў, у большасці сваёй сялян, было вельмі цяжкім. Знясільваючая праца ад світання да змяркання. Сціплая ежа, у аснове якой бульба, капуста і агуркі. Мяса толькі па вялікіх святах”. А вось якой была гаспадарка, маёмасны стан і павіннасці нашых продкаў наўрад ці існуе дакладнае ўяўленне.

Пэўныя звесткі на гэты конт дае нам копія інвентара фальварка Бывалькі на 1847 г., якая знаходзіцца ў музеі Бывалькаўскай сярэдняй школы. Фальварак Бывалькі належаў да лоеўскага маёнтка князеў Юдзіцкіх. Дарэчы, у гістарычных крыніцах вёска Бывалькі да сярэдзіны XIX ст. згадваецца пад назвай Бывалькі-Мікалаеўка. Што азначае двайная назва гэтага населенага пункта ?

Вядомы даследчык нашага рэгіёна А.Рогалеў сцвярджае, што гэты факт, хутчэй за ўсё, сведчыць аб злучэнні двух пасяленняў у адну вёску. Назва Мікалаеўка магла датычыць фальварка – панскай гаспадаркі, Бывалькі ж – гэта асноўны сельскі пункт.[60] Што гэтае меркаванне мае падставы, сведчыць тое, што ў сучасных Бывальках і зараз адна з частак вёскі носіць назву Мікалаеўка.

У інвентарных запісах фальварка Бывалькі, складзеных 9 снежня 1846 года, адлюстраваны падзел сялянскіх гаспадарак на разрады ў залежнасці ад іх маёмасці і зямельных надзелаў, вызначаліся памеры паншчыны і аброчных павіннасцей у вёсках Бывалькі і Цясны. Інвентары – абавязковыя спецыяльныя кнігі ўліку пазямельнага і маёмаснага становішча прыгонных сялян і іх павіннасцей на карысць пана былі ўведзены царскім указам у памешчыцкіх маёнтках у сярэдзіне 40-х гадоў XIX ст., яны складаліся і рэгулярна пераглядаліся самімі ўладальнікамі памесцяў.

На 1847 год у вёсцы Бывалькі існавала 85 сялянскіх гаспадарак у якіх налічвалася 498 чалавек, у вёсцы Цясны інвентар адлюстраваў 41 сялянскую гаспадарку і 225 жыхароў. Усе сялянскія гаспадаркі падзяляліся на чатыры разрады ў адпаведнасцю з іх пазямельным і маёмасным становішчам: цяглых, паўцяглых, агароднікаў і бабылёў.

Да цяглых належалі прыгонныя сяляне, якія надзяляліся ад уладальнікаў надзеламі сядзібнай, ворыўнай і сенакоснай зямлёй, што складалі па мясцовых правілах пазямельныя цягла.[61]

Цяглыя гаспадаркі мелі ў карыстанні надзелы зямлі агульнай плошчай ад 13 дзесяцін або 14 гектараў ( 1 дзесяціна - 1,09 га) да 59

60 Рогалеў А. Бывалькі. // Гомельская праўда. №128. 20 жніўня 1996. С.3.

61 НА РБ, ф. 1628, воп. 1, спр. 1182, а.7.





вышыню – ад 1,2 да 1,4 метраў. Будаваліся яны з сасновага і яловага лесу на суднаверфях Магілеўскай губерні ў Беліцкім і Рагачоўскім уездах і ў Гарадоцкім уездзе Чарнігаўскай губерні. Бярліны мелі драўляны дах, мачту, забяспечаную двума парусамі са здвоеным канатам.

Гледзячы па абставінах і мясцовасці, ўжываліся розныя сродкі для руху. Калі быў вецер і на значным працягу Дняпра не было шматлікіх паваротаў, тады выкарыстоўваўся парус, там, дзе берагі не зараслі лесам, судны цягнулі людзі-бурлакі. Дзе ж на рэчцы былі высокія берагі, балоты, лясы і хмызнякі, выкарыстоўваліся шасты, з дапамогай якіх прыводзіліся ў рух судны, або судна рухалася шляхам заноса якара.

Звычайна судны прыводзіліся ў рух па цячэнню з дапамогай шастоў і паруса, а супраць цячэння – пад парусам, на шастах, шляхам заноса якара, а таксама бурлакамі.

Судны праходзілі пад парусам па ветры да 127 кіламетраў у суткі, супраць цячэння пад парусам – да 64 км, на шастах і з дапамогай бурлакоў – да 21 км, а на канатным якары – да 16 км за суткі.

Бярліны бралі на борт ад 65,5 да 196,5 тон груза, мелі асадку ад 71 да 120 см. Яны выкарыстоўваліся для ўзводнага і сплаўнага суднаходства і патрабавалі для ўзводнага суднаходства да 4-х рабочых на 16 тон груза, а для сплаўнага суднаходства –ад 8 да 14 чалавек. Акрамя рабочых, бярліну вёў лоцман. Судна каштавала без аснасткі – 1000-1500 рублеў серабром і звычайна магло служыць да 7 гадоў. Бярліны нямецкай канструкцыі мелі даўжыню ад 32 да 40 метраў, шырыню – ад 4,26 да 5, вышыню – ад 1,4 да 1,75 метраў. Судны будаваліся ў Прусіі і ў Царстве Польскім з добраякаснага сасновага , дубовага і яловага лесу і вызначаліся якаснай аддзелкай, былі больш легкімі на плаву, чым рускія, але каштавалі даражэй. Яны падымалі на борт груз вагой ад 57 да 165 тон , мелі асадку ў вадзе ад 71 да 106 см і рухаліся з хуткасцю ад 2 да 7 кіламетраў у гадзіну. Гэтыя судны патрабавалі для ўзводнага суднаходства да 3-х рабочых на 16 тон груза, а для сплаўнага суднаходства – ад 4 да 8 рабочых.

Такія судны без аснасткі каштавалі ад 2500 да 4000, з аснасткай – 3000-5000 рублеў серабром і маглі служыць 12 гадоў і болей.[54]

Другім тыпам суднаў былі баркі. Баркі мелі даўжыню ад 42,6 да 49

54 Там жэ. С. 161.

метраў, шырыню – ад 14,2 да 16,4 метры, вышыню – ад 1,4 да 1,75 метраў. Яны мелі 2-3 якары на укосінах, вагой 1,6-2,4 тоны і бралі на борт груз вагой ад 65,5 да 82 тон. Баркі каштавалі без аснасткі 125 рублеў, а з аснасткай 675 рублёў і выкарыстоўваліся толькі для сплаўнага суднаходства. Яны патрабавалі для праводкі аднаго лоцмана і ад 15 да 20 рабочых, у тым ліку праважатых. Рабочыя на судне атрымлівалі 12-16 рублеў кожны за сходку з усіх прыстаняў Мінскай губерні да Екацерынаслава (зараз Днепрапятроўск), да Херсона - 12-18 рублеў пры сваім харчаванні. Лоцман атрымліваў пры сваім харчаванні 60-80 рублеў да Екацерынаслава і 60-100 рублеў да Херсона. Баркі рухаліся ў дзень пры бязветраным надвор'і ад 42 да 85 км, але пры значным папутным ветры плыць не маглі, таму што вялікі груз і памеры судна перашкаджалі хуткаму манеўру.

Баркі будаваліся ў некалькіх месцах на Дняпры: насупраць Каменкі, у двух кіламетрах ніжэй Лоева, дзе знаходзілася прыстань і месца для стаянкі суднаў, на Украіне, каля Лапацiна і каля Любеча, насупраць вескі Лутава. Каля Любеча існавала зімовая пераправа, а баркі, пабудаваныя тут, мелі сваю асаблівую канструкцыю і насілі назву любечскіх. У Радулі раней будаваліся якасныя байдакі, але гэтыя судны да сярэдзіны XIX ст. выйшлі з выкарыстання і былі заменены бярлінамі. Для будаўніцтва барак лес прыганяўся ў асноўным з Бярэзіны і Свіслачы.[55]

У 1857 г. ў Лоеве пражывала 4 суднапрамыслоўцы, якія мелі ва ўласнасці 9 сваіх суднаў. Прозвішчы гэтых суднапрамыслоўцаў нам пакуль невядомыя, але вядома, што яны будавалі штогод 20-35 барак, якія выкарыстоўваліся толькі для сплава. Пры прыбыцці ў нізоў'і Дняпра баркі прадаваліся разам з прывезеным лесам.[56]

Да суднаў меншай грузападымальнасці належалі шляры і дубы. Шляры падымалі груз да 32 тон, дубы – ад 5 да 8 тон.
Уніз па цячэнню Дняпра гоняліся плыты будаўнічага лесу, сплаўляўся булыжны камень, вапна, смала і гарэлка, уверх па Дняпры хадзілі на берлінах і суднах меншых памераў з соллю, збожжам, а калі-нікалі ганялі і невялікія плыты карабельнага леса праз Дняпроўска-Бярэзінскую водную сістэму ў Рыгу.

Плыты звычайна складаліся з двух плацец, кожная з якіх мела

55 Там же. С. 132.
56 Там же. С.132.





даўжыню 8,5, шырыню – ад 5,3 да 7,5 метраў. Некалькі плытоў, рухаючыхся адзін за адным, складалі ганец, даўжыня якога звычайна была 40-60 метраў. Колькасць калод у ганцы залежала ад таўшчыні лесу і бывала ад 250 да 500 штук.[57]

Суднаходства ў раене Лоева ў засушлівае лета часта ўскладнялася з-за водмеляў і пясчаных перакатаў. Асабліва шмат водмеляў было каля Холмеча, Чапліна, Мохава, Лоева, Дзяражычаў, Любеча. Гэтыя водмелі стваралі асаблівую пагрозу, калі судны ішлі адзін за другім. Вядома, што ў 1853 годзе, каля Лоева разбіліся дзве баркі. Пярэдняя барка наткнулася на абмялеўшы бераг, а задняя наляцела на яе. Ад удара гэтыя баркі разбіліся і патанулі. Груз уратавалі, але гаспадар панес страты на суму 2000 рублеў.[58]

Вядома таксама, што рачны транспарт мае адзін істотны недахоп – ён носіць сезонны характар. Рака Днепр працяглы час знаходзіцца пад ільдом. Вось дадзеныя па старому стылю на працягу 10 год (з 1848 па 1857 год) ускрыцця і замярзання Дняпра.

| Гады | Ускрыццё | Замярзанне |
|---|---|---|
| 1848г. | 7 сакавіка | 7 снежня |
| 1849 г. | 7 красавіка | 22 лістапада |
| 1850 г. | 4 красавіка | 7 лістапада |
| 1851 г. | 22 сакавіка | 25 лістапада |
| 1852 г. | 24 сакавіка | 17 лістапада |
| 1853 г. | 27 сакавіка | 11 лістапада |
| 1854 г. | 1 красавіка | 19 лістапада |
| 1855 г. | 19 сакавіка | 10 лістапада |
| 1856 г. | 2 красавіка | 9 лістапада |
| 1857 г. | 16 сакавіка | 6 лістапада. |

Такім чынам, у сярэднім за 10 гадоў Днепр ускрываўся 25 сакавіка і пакрываўся ільдом 16 лістапада па Юліянскаму календару. Гэта значыць, што каля Лоева Днепр знаходзіўся пад ільдом у сярэднім на працягу 129 дзен, або больш чым чатыры месяцы.[59]

57 Там же. С. 131.
58 Там же. С. 133
59 Там же. С. 134.